задзіночаньне беларускіх студэнтаў

# студэнцкая думка

Прыёмная кампанія
Рэформа адукацыі
Платнае навучаньне
Педагогіка й псыхалёгія
Нелегендарны Полацак





Аднаўленьне традыцый
Радзіма гісторыі
Менск - Шчэцін - Менск
Беларуская лацінка
Танчыць заўсёды
Прага чэская й беларуская

№7

верасень-кастрычнік 1998

# ЗЬМЕСТ Нумару

# № 7




**Выданьне заснавана:** Задзіночаньнем Беларускіх Студэнтаў
**Рэдактар:** І.Віданава
**Карэктар:** В.Булгакаў
**Набор:** В.Шылай
**Вёрстка:** Цэнтар «Выдавецкая Ініцыятыва»

*Наклад* 299 *асобнікаў*

Ахвярую
вучобе сабою
ў гэтым годзе,
а не - дык жанюся

# ПРЫЁМНАЯ Камісыя, *або Як у хуткім часе стацца пісьменным*

**Крысьціна Сідун**

Вось ты скажы: ты студэнт? Студэнтка. Яшчэ лепш. І што, падабаецца? Вучыцца прымушаюць. Дык хіба ж гэта дзіва? А памятаеш, як усё пачыналася? Не хвалюйся, нагадваць табе твае ўласныя бяссонныя ночы, пошукі карысных знаёмых, звароты да Ўсявышняга мы не зьбіраемся, хаця, магчыма, і варта было б. Лепш паспрабуй атрымаць асалоду ад расповеду пра тых дзівакоў, што па ўласным жаданьні сунуць галаву ў пятлю - паступаюць. А яшчэ лепей - дай пачытаць малодшаму брату-абітурыенту.

## Год 1998 БЛУКАНЬНЕ Па *навуках*

Калі вы мянчук, адзін з асноўных іспытаў можаце лічыць здадзеным. Вы выжылі. Астатніх жа спадароў абітурыентаў папярэджваю, што плаўны пераход са стану кліенту прыёмнай камісіі ВНУ ў стан кліента прыёмнага пакою шпіталю не зьяўляецца дзіўным. І каштуе няшмат—25-50 тысяч беларускіх рублёў. За суткі. Пры гэтым вас забясьпечаць дахам, ложкам і, магчыма, бялізнай.

Жыць у інтэрнаце цікава. Калі вы ня прусак самотны, дык у хуткім часе знойдзеце шырокае кола знаёмых, якія дапамогуць зразумець, што вы ўсё роўна нічога ня ведаеце, і часу няма вучыць. Разам вырашыце не займацца больш гэтай лухтой, і пачнецца самае цікавае. Вы будзеце сачыць за сваімі калегамі, намагаючыся трымаць іх як мага далей ад кніжак, у той час як самі, хаваючыся па закуточках, будзеце падчытваць і зубрыць усё

патрэбнае й непатрэбнае. На другі ці трэці дзень зьявіцца настальгія па доме—захочацца есьці. Пасьля вы зразумееце, што грошай на тое, каб харчавацца толькі хот-догамі ды марозівам, можа не хапіць. Тэрмінова зарганізуецца камуна па прыгатаваньні супчыкаў, бульбы ды яек з салам, але гарантыі на тое, што гэта не даб'е страўнік, даць ня хто не наважыцца. У дадатак да ўсяго, інтэрнацкія кухні могуць быць проста зачыненыя, бо, як ні дзіўна гэта гучыць, прыбіральшчыцы ня маюць права мыць там; яны прыбіральні мыюць, даруйце за падрабязнасьць, а кухні—праблема абітурыентаў, а то зажраліся тут на дзяржаўных харчох, думаюць, што ў дом адпачынку прыехалі. Каб забыцца на страўнік, вы паспрабуеце спаць уначы - не атрымаецца! Бо ёсьць людзі, якім проста неабходны ў гэты час суразмоўца, і лепш за вас знайсьці нельга.

Але вернемся да галоўнага - іспыты. Звычайна ад трох да пяцёх запар. Сьпісаць можна, але ўмеючы. Ня ўмееш - не спрабуй. Выкшталцоныя веды неабавязковыя. Лепш грунтоўна разабраца са школьным падручнікам. Калі іспыт вусны, ня трэба разьлічваць, што як толькі вы пачнеце адказваць, патрэбныя словы пацякуць як вада з-пад крану - лепш зафіксаваць як мага больш на паперы. Дарэчы, гэта дапаможа, калі што, пры разглядзе вашай апэляцыі. Зьвесткі звыш праграмы сапраўды карысныя па прафілюючай дысцыпліне, але трэба ўлічваць, што экзаменатар можа сам зацікавіцца і папрасіць вас разьвіць гэтую тэму. Калі ўзровень вашай падрыхтоўкі не дазволіць спраўдзіць яго надзеі на атрыманьне каштоўнай інфармацыі, то з роспачы ён можа выказаць сваё незадавальненьне ў адпаведнай адзнацы. Прынамсі, з адзнакай можна паспрачацца. Калі губляць ужо няма чаго, можна рызыкнуць і сказаць што-небудзь кшталту: “Ня ежце мяне, я вам песеньку сьпяю” ці: “Гэта я зараз брудны і ніякі, а так пухнаты і з душой паэта.” Галоўнае, каб вамі зноўку зацікавіліся. Гэта ўсё адно, што білет перацягнуць і на шчасьлівы патрапіць. Далей можна вярзьці што заўгодна, абы натхнёна і безь перапынкаў. У выніку гэта дапаможа падняцца на палову ці на цэлы бал. Зь пісьмовай працай складаней, хаця, зь іншага боку, дадатковых пытаньняў не зададуць. Ня думайце, што калі вы неразборліва напішаце нейкую літару, то правяраючы ўбачыць у ёй патрэбную - адзнаку вам зьнізяць, калі не за памылку, дык за адсутнасьць каліграфіі. Сьпісаць укладаньне са зборніку і атрымаць нешта добрае можна толькі пры паступленьні на тэхнічную спэцыяльнасьць БДУІР ці БДПА, ды і тое, калі пашанцуе. Памяць у правяраючых неблагая: аднойчы прачытаўшы цікавы твор, яны запамінаюць аўтара, а пасьля зьніжаюць адзнакі за памылковае вызначэньне аўтарства вамі. Калі вы здаяцё пісьмовы іспыт з матэматыкі, то не спрабуйце зьдзівіць выкладчыка дакладнымі цытатамі тэарэмаў ці азначэньняў Пагарэлава альбо Атанасяна - для вышэйшай матэматыкі гэта сьмешна і спрэчна, галоўнае ўмець ужыць іх у патрэбным месцы і абгрунтаваць гэта.

А ўвогуле—паежце і пасьпіце перад іспытам, а то часам небаракі і засынаюць у аўдыторыі, і выкладчыкаў глушаць сьпевамі галодных страўнікаў. А насамрэч уступныя - такая дробязь. Гэта як на “Супэр 8” пракаціцца: на першым павароце сэрца зварухнецца, пачуцьці выгнуцца ў пытальнік, але ўсё скончыцца так хутка, што й зразумець не пасьпееш. І ні пуха, ні пер'я не застанецца...



# РЭФОРМА АДУКАЦЫІ

## *Лёс аднаго ПРАЕКТУ*

**Ірына Кароль**

Пытаньне аб неабходнасьці рэфармаваньня сыстэмы вышэйшай адукацыі было ўзьнята амаль адразу з абвяшчэньнем пачатку перабудовы. Шырокая дыскусія разгарнулася на ўсёй постсавецкай прасторы. Галосна пачала крытыкавацца раней недатыкальна ідэальная савецкая адукацыя, узровень якой заўжды лічыўся найвышэйшым у сьвеце. Над вучнямі і студэнтамі сталі праводзіцца шматлікія пэдагагічна-мэтадычныя экспэрымэнты, уводзіліся альтэрнатыўныя навучальныя праграмы, зьявіліся новыя тыпы навучальных установаў... Час ідзе, а пераходны пэрыяд у рэфармаваньні сыстэмы адукацыі так, здаецца, і застаўся ў сваіх вытокаў. Як і раней з зайздроснай рэгулярнасьцю абвяшчаюцца і нават часам набываюць сілу законаў разнастайныя праекты рэформаў ці то сярэдняй, ці то вышэйшай школы. Адрозьненьне ад пачатку 90-х толькі ў тым, што Беларусь, як бы там ні было, сувэрэнная дзяржава, і праблемы адукацыі павінна вырашаць самастойна. І на сёньняшні момант відавочна, што ніякіх карэнных зьменаў у нашай нацыянальнай сыстэме адукацыі не адбылося. Як апраўданьне ў падобнай сытуацыі гучыць заява, што сама сыстэма не такая ўжо благая, а таму цалкам зьмяняць яе ня трэба, неабходна толькі крыху адкарэктаваць, выкарыстоўваючы лепшыя дасягненьні замежных адукацыйных мадэляў. Пазыцыя гэтая вельмі разумная. Праблема, аднак, у тым, што немагчыма адасобіць вырашэньне адукацыйнага пытаньня ад цэльнага працэсу грамадзкага разьвіцьця, якое адбываецца ў пэўных палітычных, эканамічных і храналягічных умовах. А гэта азначае, што мы ня маем магчымасьці стварыць мадэль новай сыстэмы адукацыі ў нейкім вакууме, бо час прымушае да больш апэратыўнага рэагаваньня. Шматлікія ж недаведзеныя да канца экспэрымэнты пры адсутнасьці неабходнай эканамічнай базы замест стварэньня новага разбураюць стары мэханізм. Тыя ж новыя для нашай краіны формы арганізацыі адукацыйнага працэсу, што пасьпелі ўзьнікнуць за гэты час, не ўвайшлі ў сыстэму, а існуюць насуперак ёй, бо знаходзяцца ў насьцярожаным чаканьні чарговага зрухуківача дзяр-

жаўнага адукацыйнага "стандарту", які вагаецца паміж "за" і "супраць" наяўнасьці недзяржаўнай альтэрнатывы. Калі ўлічыць, што кожная з частак навучальнага працэсу зьвязана адна з другой, а ўся сыстэма цалкам павінна задавальняць патрэбы грамадзтва, з аднаго боку, і чалавека ў ім, зь іншага, то відавочна, што на дадзены момант мэханізм гэты не працуе. І зараз мы апынуліся ў замкнёным коле, выйсьце зь якога – адказ на пытаньне: з чаго пачаць грунтоўную рэформу адукацыі?

Трэба зазначыць, што пошук магчымых варыянтаў апошнім часам ізноў актывізаваўся, асабліва гэта тычыцца вышэйшай школы. Сапраўды, калі карэнным чынам зьменіцца падыход да праблемы падрыхтоўкі кадраў, будзе значна лягчэй рэфармаваць сярэднюю школу, у якую, у ідэале, прыйдуць маладыя спэцыялісты з сучаснымі ведамі і здольнасьцю да хуткага рэагаваньня на прапанаваныя дзяржавай зьмены ў пэдагагічным працэсе. Калі ўзяць за аснову гэтую схему, то паўстае пытаньне: з чаго ж пачаць рэформу вышэйшай школы? А чаму б не з пачатку – з сыстэмы адбору ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Менавіта гэты этап названы першым у праекце «Канцэпцыі разьвіцьця вышэйшай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», які распрацоўваўся групай "Адмітар" Навучальна-мэтадычнага цэнтру "Вышэйшая школа" рэспубліканскага Інстытуту вышэйшай школы пры БДУ на даручэньне Міністэрства адукацыі РБ. Калі падрыхтоўка праекту вялася непасрэдна па дзяржаўнай замове і была даручана мэтадычнаму цэнтру вядучай ВНУ, то натуральна, што ў пэрспэктыве палажэньні канцэпцыі павінны былі стаць падмуркам адпаведнага законапраекту. Аднак, нягледзячы на тое, што ініцыятарам праекту стала сама дзяржава, яна ж нечакана й спыніла фінансаваньне дадзенай праграмы. Цяжка сказаць, якой была ісьтая прычына падобнага рашэньня (ці то грошай, як заўсёды, на справы духоўныя не хапіла; ці то канцэпцыя не адпавядала ўяўленьням дзяржаўных чыноўнікаў аб вышэйшай школе будучага), але валантэры з азначанага вышэй калектыву не спынілі працы над праектам. Тым ня менш, наўрад гэтыя распрацоўкі ў бліжэйшай будучыні будуць практычна скарыстаны, улічваючы сёньняшнюю дзяржаўную палітыку ў галіне адукацыі і культуры.



Праект першага этапу рэфармаваньня вышэйшай школы Беларусі займае дзесяць друкаваных старонак, пры гэтым сем зь іх прысьвечаныя тэарэтычным граням праблемы, а практычны бок ажыцьцяўленьня рэформы выкладзены на апошніх трох старонках. Першая, тэарэтычная, частка ўражвае сваёй грунтоўнасьцю і распрацаванасьцю. Тут разглядаецца стан сыстэмы прыёму ў ВНУ на сёньняшні дзень і асноўныя недахопы гэтай сыстэмы, аналізуюцца асноўныя сыстэмы прыёму ў замежныя навучальныя ўстановы. Матэрыял гэты выдатна пададзены, праілюстраваны адпаведнымі статыстычнымі дадзенымі, ды і ўвогуле аб'ектыўна адлюстроўвае існае становішча сучаснай сыстэмы прыёму ў ВНУ. Перш за ўсё зьвяртаецца ўвага на тое, што дзеючы парадак вызначае фактычна толькі абавязковы максымальны стандарт праграмы па кожным вынесеным на прыёмныя іспыты прадмеце. Колькасьць іспытаў, іх пасьлядоўнасьць і парадак правядзеньня пакінуты на разгляд вышэйшых навучальных установаў, што дазваляе апошнім у шэрагу выпадкаў замяняць іспыты сумоўем, тэстамі, ці ўвогуле за вынікі іспытаў

уважаць адзнакі з пасьведчаньня аб заканчэньні школы. Акрамя гэтага, існуюць шматлікія ільготы (месца жыхарства, наяўнасьць залатога ці срэбранага мэдаля, «чырвоны» дыплём, перамогі на алімпіядах, сямейны стан і г.д.), сьпіс якіх кожны год пераглядаецца і пашыраецца. Сама працэдура вядзеньня прыёмнай кампаніі вельмі жорсткая і патрабуе дадатковых сродкаў, але, нягледзячы на гэта, яна ўвесь час крытыкуецца за злоўжываньні, неаб'ектыўнасьць, дыскрымінацыю, псыхічную і фізычную перагрузку абітурыентаў. Такім чынам, відавочна, што сучасная сыстэма прыёму ў ВНУ не спрыяе выяўленьню сапраўднага ўзроўню ведаў абітурыентаў, стварае пры паступленьні ажыятаж і атмасфэру панікі, а таму патрабуе карэннага рэфармаваньня.

Падчас распрацоўкі канцэпцыі беларускай нацыянальнай сыстэмы прыёму ў ВНУ яе стваральнікі абапіраліся на аналіз дасягненьняў разнастайнага замежнага досьведу ў гэтай галіне зь яго адаптаваньнем да беларускай спэцыфікі. Спыніліся, у выніку, на сыстэме SAT-1, што дзейнічае ў ЗША, як самай дэмакратычнай, нястрэсавай, гнуткай і аб'ектыўнай. Гэтая сыстэма ўяўляе сабой нацыянальны ўнівэрсальны тэст праверкі гатоўнасьці да навучаньня ў вышэйшай школе, а ня проста фармальных ведаў, і прадугледжвае магчымасьць шматразовай пераздачы, абраньня зручнага для здачы часу з набору сямёх дэтэрмінаваных тэрмінаў, унітарнасьць іспыту (толькі адзін тэст працягласьцю ў некалькі гадзінаў), разьвітую сыстэму падрыхтоўкі і празрыстасьць патрабаваньняў, незалежнасьць экзаменатараў ад ВНУ. Спроба ўвесьці гэтую сыстэму на Украіне, аднак, правалілася, што зьвязана, хутчэй за ўсё, не з заганнасьцю самой працэдуры, а са спробай навесіць дадатковы тэставы кантроль на старую сыстэму прыёму. Прамежкавы варыянт пачала зараз разьвіваць Расея. Яго парадыгма зьмяшчае прадметнае тэставаньне ў адзіны для ўсіх тэрыторый дзень па адзінай праграме. Вынікі здачы тэсту афармляюцца сэртыфікатам дзяржаўнага ўзору і залічваюцца большасьцю ВНУ ў якасьці адзнак уступных іспытаў. Зараз ёсьць магчымасьць здаваць іспыты такім чынам па сямёх прадметах у 60 рэгіёнах. Вядуцца перамовы аб адкрыцьці пунктаў тэставаньня для паступленьня ў расейскія ВНУ на тэрыторыі Беларусі. На жаль, у гэтай сыстэме абмежаваная колькасьць іспытаў, а абслугоўваньне і праверка тэстаў адбываецца на мясцох з наступнай перадачай дадзеных па электронных сродках сувязі, што не выключае дапамогі "патрэбным" абітурыентам.

Такім чынам, аналізуючы досьвед ужо краін блізкага замежжа, беларускія стваральнікі нацыянальнай сыстэмы прыёму ў ВНУ прыйшлі да разуменьня неабходнасьці эвалюцыйнага пераўтварэньня існуючай у нас схемы. У якасьці першага этапу прапануецца ствараць у рэспубліцы ў структуры Мінадукацыі ці Белдзяржунівэрсытэту рэспубліканскі



экзаменацыйны цэнтар, задачай якога ставіцца мэтадычнае і тэхнічнае забесьпячэньне працэдуры атрыманьня дадзеных і іх апрацоўкі. Цэнтар неабходна ўкамплектаваць штатамі мэтадыстаў, інжынэраў і лябарантаў, забясьпечыць вылічальнай, капіявальнай тэхнікай і сродкамі сувязі (тэлефон, факс, электронная пошта, інтэрнэт). У якасьці экспэрымэнтальных прадметаў у праекце прапанавана абраць матэматыку і фізыку як найбольш распрацаваныя з пункту гледжаньня фармальнай ацэнкі. Адначасова будзе весьціся падрыхтоўка іспытаў па беларускай і расійскай мове і літаратуры як найбольш масавых. Форма правядзеньня іспыту – фармалізаваны пісьмовы тэст.

Іспыты гэтага тыпу праводзяцца звычайна на платнай аснове (у памеры прыкладна аднаго мінімальнага заробку) у папярэдне абвешчаны дзень па адзінай праграме, якая мусіць быць засакрэчанай. Іспыты праводзяцца толькі сэртыфікаванымі ў Цэнтры інспэктарамі, якія нясуць маёмасную адказнасьць за выкананьне правілаў правядзеньня тэстаў і перадачы інфармацыі ў памеры кошту іспыту.

Сэртыфікат, які будзе выдадзены пасьля іспыту, павінен быць абавязковым да прыёму ўсімі ВНУ рэспублікі.

Гэты комплекс мерапрыемстваў стваральнікі канцэпцыі плянавалі зьдзейсьніць за 1998 год, а ўлетку 1999 году выкарыстаць яго ўжо ў поўным аб'ёме. Наступны этап разьвіцьця сыстэмы павінен пачацца з аналізу досьведу першых іспытаў. На гэтым жа этапе распрацоўваюцца тэсты па ўсіх магчымых уступных іспытах, а вынікі іх здачы прыраўноўваюцца да вынікаў выпускных іспытаў сярэдняй школы. Адначасова будзе весьціся праца над экспэрымэнтальнымі праграмамі комплексных іспытаў па асноўных накірунках адукацыі: для гуманітарных, прыродазнаўчых, інжынэрных і эканамічных спэцыяльнасьцяў. Гэтыя тэсты, аднак, не выключаюць магчымасьці існаваньня творчых конкурсаў. Вынікі іспытаў будуць публікавацца, а іх аналіз – паведамляцца ў Мінадукацыі для карэктаваньня і навучальных плянаў, і праграм падрыхтоўкі ў школе. З сэртыфікатам аб здачы адпаведнага тэсту абітурыент будзе мець права зьвярнуцца ў некалькі ВНУ адначасова.

Трэці этап прадугледжвае распрацоўку адзінага ўнівэрсальнага тэсту для паступленьня ў любую ВНУ на любую спэцыяльнасьць. Пасьля шматгадовага назіраньня будзе ўсталявана ніжэйшая мяжа яго здачы, перавышэньне якой і будзе неабходнай умовай для паступленьня ў ВНУ, у тым ліку і недзяржаўныя. Будзе разгорнута сетка кансультацыйных пунктаў, дзе інспэктары цэнтру будуць тлумачыць і прапагандаваць новую сыстэму. У гэты ж час неабходна падрыхтаваць праект дакумэнту СНД аб адзінай сыстэме тэставаньня.

Стваральнікі праекту не забыліся й на праблему існаваньня розных узроўняў падрыхтоўкі ў вясковых і гарадзкіх школах. Падцягнуць навучэнцаў зь неспрыяльных у адукацыйным пляне школаў можна пры дапамозе сеткі гадавых падрыхтоўчых курсаў пры ВНУ і падрыхтоўчых інтэрнатаў. Аднак адбор навучэнцаў у іх будзе весьціся не па сацыяльна-тэрытарыяльным прынцыпе, а па ацэнцы патэнцыйных здольнасьцяў вучня. Аснова адбору – тэсты на вызначэньне інтэлектуальнага ўзроўню ці той жа ўнівэрсальны тэст. Такім чынам, адбірацца будуць ізноў лепшыя, але ўжо з ускосным улікам сацыяльнага фактару.

У ідэале, поўнае разгорт-

ваньне такой сыстэмы зробіць выпускныя іспыты непатрэбнымі, а ўсе існуючыя зараз уступныя іспыты будуць заменены адзіным унівэрсальным тэстам са зразумелымі ўсім правіламі і мэтай. Цэнтралізаваная сыстэма дазволіць таксама праводзіць аналіз эфэктыўнасьці падрыхтоўкі вучняў па тэрыторыях і нават па асобных настаўніках. Каапэрацыя з аналягічнымі расейскімі структурамі, асабліва ўва ўмовах адзінай адукацыйнай прасторы, дазволіць беларускім грамадзянам свабодна пастутаць у ВНУ Расеі, а таксама і іншых краінаў, у першую чаргу СНД.

Такім чынам, паводле разьлікаў беларускіх мэтадыстаў, новая сыстэма прыёму ў ВНУ можа быць поўнасьцю разгорнута за тры гады.

Так, амаль бездакорна, выглядае будучая сыстэма ўступнай кампаніі. Сапраўды эвалюцыйным падаецца яе стварэньне, хаця нават на першы погляд неверагодна кароткім здаецца тэрмін яе ўвасабленьня. Але наколькі суадносіцца гэты праект з сучаснымі беларускімі рэаліямі? Самым фантастычным момантам можна назваць палажэньне аб магчымай адзінай адукацыйнай прасторы ў рамках СНД, бо ўжо даўно зьніклі апошнія ілюзіі аб нейкім рэальным палітычным і эканамічным адзінстве гэтага наддзяржаўнага ўтварэньня. Калі зьвярнуцца да пытаньня стварэньня новай сыстэмы прыёму ў ВНУ ўжо толькі ў межах рэспублікі, то даволі абсурдна выглядае прапанаваная ў канцэпцыі магчымасьць на аснове адзінага ўнівэрсальнага тэсту паступаць адначасова ў некалькі ВНУ па жаданьні. Гэта неяк зусім не суадносіцца са становішчам на беларускім працоўным рынку, улічваючы аднаўленьне прымусовага разьмеркаваньня, як гэта было ў савецкія часы. Акрамя таго, ізноў ня будзе вырашана праблема дэфіцытных і недэфіцытных спэцыяльнасьцяў, толькі новая сыстэма ў дадзеным варыянце будзе садзейнічаць зьяўленьню новых складанасьцяў, зьвязаных зь перанасычанасьцю некаторых ВНУ ці асобных факультэтаў: здаў адзіны для ўсіх тэст, абраў ВНУ ды спэцыяльнасьць, і паступіў. Увогуле, сёньня для Беларусі больш падыходзіць кітайская сыстэма, калі ўсе пішуць адзіны тэст і, у выніку пасьпяховай здачы, дзяржава накіроўвае абітурыента ў пэўную вышэйшую навучальную ўстанову на пэўную спэцыяльнасьць. Пры гэтым адмовіцца нельга. Так і фармуецца стабільная сытуацыя на рынку працы – аніякай канкурэнцыі. Аднак унівэрсальны тэст для нас яшчэ далёка, а вось зьдзяйсьненьне першага этапу рэформы было заплянавана на лета 1999 году, хаця гэтая частка праекту падаецца самай незразумелай. Чамусьці ўвогуле не напісана, якім чынам будзе праходзіць непасрэднае тэставаньне: ці ў самім цэнтры, ці на мясцох. Калі на мясцох, то хто будзе забясьпечваць іх адпаведнай тэхнікай і як пазьбегнуць верагоднага ўмяшальніцтва ў вынікі іспытаў пры іх перадачы, бо толькі запячатаныя капэрты з заданьнямі і блянкамі не дапамогуць. Хто і як будзе рыхтаваць адпаведных інспэктараў, і па якім прынцыпе яны будуць сэртыфікаваныя цэнтрам? Такім чынам, пытаньняў паўстае шмат, але недапрацаванасьць праекту можна растлумачыць тым, што энтузыязм – справа добрая, але не бясконцая. А ўвогуле шкада, што наўрад ці калі-небудзь у бліжэйшы час на Беларусі будзе функцыянаваць такая сыстэма прыёму ў ВНУ – надта добра яна выглядае, ды і людзі яе распрацоўвалі высокаадукаваныя і неабыякавыя да нашай будучыні, і пры лепшых абставінах, напэўна, здолелі б правесьці і больш шырокую рэформу беларускай нацыянальнай адукацыйнай сыстэмы, якая б вывела апошнюю на міжнародны ўзровень.



# ПЛАТНАЕ Навучаньне: якія выбар яно пакідае студэнту

Зьміцер Зікрацкі
Сяргей Зікрацкі

Здаўна зьявілася ў нейкага, магчыма, неблагога чалавека ідэя, што ўсе людзі павінны быць роўнымі. І роўнымі ня толькі ў магчымасьцях, а мае быць сацыяльная роўнасьць, гэта значыць, што ўсё ў людзей будзе агульным. І звалася гэтая ідэя камунізмам. І пачалі будаваць гэты камунізм у асобна ўзятай краіне. І вырашылі, што ўсё ў гэтай краіне будзе бясплатным – і мэдыцынскае абслугоўваньне, і адукацыя, і жыльлё. І навучаліся тады нашыя бацькі ў інстытутах, і не плацілі за гэта грошы…

Але прыйшоў іншы час, і зьявілася платная адукацыя. Добрая гэта зьява ці благая? Напэўна, добрая, таму што нічога ня можа быць бясплатным (бясплатным бывае толькі сыр, ды і той у пастцы), і падабаецца гэта каму-небудзь ці не, але факт застаецца фактам — платнае навучаньне існуе, і сёньня ў абітурыентаў, якія ня здолелі паступіць на бясплатнае навучаньне, ёсьць магчымасьць атрымаць адукацыю за грошы. Але адразу паўстае пытаньне: у якую ВНУ пайсьці вучыцца? Кожны адказвае на гэтае пытаньне самастойна, і не апошнюю ролю тут адыгрывае кошт навучаньня. Аднак, зважаючы на кошт, будучыя студэнты часам не глядзяць на ўмовы аплаты і магчымасьць зьмяненьня гэтага кошту ў далейшым.

Кожная ВНУ заключае са студэнтам, які будзе навучацца на платнай аснове, дагавор. У розных ВНУ дагаворы розныя, але адносна ўмоваў аплаты іх можна аб'яднаць у некалькі групаў:

1. дагавор на навучаньне заключаецца на ўвесь пэрыяд, але кошт навучаньня вызначаны толькі на бягучы год (наконт астатніх сказана, што кошт навучаньня на кожны наступны год зацьвярджаецца рэктарам, а студэнты павінны аплаціць гэтую суму да адпаведнага тэр-

міну). Зразумела, што ў дадзеным выпадку ёсьць вялікія магчымасьці для неабгрунтаванага павелічэньня кошту навучаньня;

2. кошт навучаньня вызначаны на ўвесь пэрыяд і зафіксаваны ў адпаведнай колькасьці мінімальных заработных платаў. У гэтым выпадку першае, што чакае студэнта — гэта неабходнасьць даплачваць пры ўзьняцьці МЗП. Акрамя таго, хоць у дагаворах і запісана пра фіксаваны кошт, у большасьці зь іх ёсьць пункт, які прадугледжвае магчымасьць павелічэньня кошту. Напрыклад, "у выпадку індэксацыі мінімальнай заработнай платы, зьмяненьня цэнаў на энэргарэсурсы, павелічэньня заработнай платы выкладчыкаў ВНУ інстытут мае права павышаць кошт навучаньня" або "ўнівэрсытэт мае права карэктаваць плату пры зьмяненьні затрат на навучаньне". Вядома ж, што пры дапамозе гэтай фармулёўкі можна растлумачыць амаль кожны выпадак павелічэньня кошту;

3. кошт вызначаны ва ўмоўных адзінках (чытай: даляры) і застаецца нязьменным на ўвесь тэрмін навучаньня. Аднак тут паўстае яшчэ адно пытаньне — курс, па якім будзе лічыцца тая самая ўмоўная адзінка. Ні для каго не сакрэт, што на сёньняшні дзень у краіне існуе болей за 5 розных курсаў даляру. Большасьць ВНУ прапаноўвае пры аплаце ў рублёх выкарыстоўваць курс Нацыянальнага банку на дзень аплаты, што, безумоўна, зьяўляецца больш зручным для студэнта. Але ёсьць і такія, якія прапаноўваюць іншы варыянт. Напрыклад, "кошт умоўнай адзінкі вызначаецца ўнівэрсытэтам на дзень аплаты, пры гэтым бакамі падпісваецца адпаведны пратакол узгадненьня дагаварной цаны" (БДУ). Гэта значыць, што аплата будзе ажыцьцяўляцца не па курсе Нацыянальнага банку, а па курсе камэрцыйнага банку, у якім знаходзяцца рахункі ВНУ, што, зразумела, значна даражэй за першы варыянт. Дарэчы, заўважана, што чым большым прэстыжам карыстаецца сярод студэнтаў дадзеная ВНУ, тым больш нязручныя для іх і больш прыбытковыя для сябе ўмовы яна прапаноўвае.

Што тычыцца дзяржаўных ВНУ, то тут, на першы погляд, кошт навучаньня абмежаваны ўказам прэзыдэнта ад 23 жніўня 1996 г. №320 (са зьмяненьнем ад 5 лістапада 1996 г.), у якім гаворыцца, што "кошт платнага навучаньня ў дзяржаўнай вышэйшай навучальнай установе не павінен перавышаць фактычных затрат на падрыхтоўку спэцыяліста ў гэтай навучальнай установе". І кожны студэнт мае права зьвярнуцца з афіцыйным запытам у рэктарат аб каштарысе на навучаньне студэнтаў на адпаведнай спэцыяльнасьці. У адпаведнасьці з законам РБ "Аб зваротах грамадзян" рэктарат павінен даць адказ у 15-дзённы тэрмін, але гэта наўрад ці дапаможа, таму што ў каштарысе (у гэтым можна не сумнявацца) ніводны рубель ня будзе патрачаны не на "падрыхтоўку спэцыяліста". Гэта проста немагчыма. Мяркуйце самі: "сродкі, атрыманыя ад платнага навучаньня ў дзяржаўных вышэйшых навучальных установах, накіроўваюцца на аплату працы іх прафэсарска-выкладчыцкага пэрсаналу, абнаўленьне матэрыяльна-тэхнічнай базы, вучэбна-тэхнічнае забесьпячэньне і гаспадарчыя патрэбы" (вышэйадзначаны ўказ





№320). Гэта значыць, што любая дзейнасьць ВНУ (будзь гэта набыцьцё кампутарнай тэхнікі або рамонт памяшканьняў) застаецца ў межах дадзенага палажэньня, і ўсе гэтыя дзеяньні можна ажыцьцяўляць за кошт студэнтаў-платнікаў.

Яшчэ адзін момант, на які неабходна звярнуць увагу - гэта ільготы студэнту (магчымасьць пераходу на бясплатнае навучаньне або зьмяненьня аплаты пры добрым навучаньні). Большасьць дагавораў увогуле ня ўзгадвае гэтыя ільготы, а тыя, што ўзгадваюць, звычайна пішуць, што рэктарат у выпадку добрага навучаньня студэнта на працягу некалькіх сэмэстраў можа паменшыць яму аплату або перавесьці на бясплатнае навучаньне. Зразумела, што гэта не дае студэнту амаль ніякіх шанцаў, таму што ўсё, у канчатковым выніку, залежыць ад рэктарату, а рэктарат, напэўна ж, не пажадае губляць грошы і пераводзіць студэнта на бясплатнае навучаньне. Значна лепш, калі ільготы невялікія, але вызначаны ў дагаворы, таксама як адзначаны і ўмовы іх атрыманьня (напрыклад, “студэнту гарантуецца памяншэньне аплаты на 10% пры ўмове своечасовай здачы на “выдатна” ўсіх іспытаў на працягу 2-х сэмэстраў).

У цэлым адзначым, што калі раней (падчас зьяўленьня платнай формы навучаньня ў ВНУ) інстытуты заключалі дагаворы, гарантуючы фіксаваны кошт і больш спрыяльныя ўмовы, то сёньня большасьць ВНУ пакідае для сябе якуюнебудзь магчымасьць павелічэньня кошту навучаньня.

Трэба адзначыць, што акрамя “грашовага” фактару, аб якім мы толькі што разважалі, і які, безумоўна, зьяўляецца вядучым падчас абраньня месца навучаньня, ёсьць яшчэ некалькі момантаў, на якія хочацца зьвярнуць увагу. Па-першае, гэта адносіны да студэнта ў дзяржаўных і недзяржаўных ВНУ. Справа ў тым, што ў тых ВНУ, дзе студэнты-платнікі навучаюцца разам са студэнтамі-бясплатнікамі (а гэта амаль усе дзяржаўныя ВНУ) некаторыя выкладчыкі ставяцца да студэнтаў-платнікаў як да людзей “другога сорту” і разьмяжоўваюць студэнтаў на “добрых” і “дрэнных”, што, зразумела, адлюстроўваецца і на навучальным працэсе, і на адзнаках на іспыце.

Па-другое, гэта фінансавыя магчымасьці. На сёньняшні момант некаторыя недзяржаўныя ВНУ маюць лепшае абсталяваньне, лепшыя матэрыяльныя сродкі і больш магчымасьцяў запрашаць вядучых спэцыялістаў, чым большасьць дзяржаўных ВНУ. І гэта аказвае значны ўплыў на маладых хлапцоў і дзяўчат, якія жадаюць стаць студэнтамі.

Аднак выклікаюць занепакоенасьць адносіны ўлады да недзяржаўнага сэктару ўвогуле і недзяржаўных ВНУ у прыватнасьці. Апошнім часам недзяржаўныя ВНУ пужаюць бесьперапыннымі праверкамі і пераатэстацыямі, таксама час ад часу зьяўляюцца чуткі аб тым, што студэнты зь недзяржаўных ВНУ не атрымаюць дыплёмаў дзяржаўнага ўзору. Гэтыя чуткі пакуль, на шчасьце, застаюцца толькі чуткамі, і часам здаецца, што ўсё гэта робіцца дзеля таго, каб моладзь ішла ў дзяржаўныя, а не недзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Такім чынам, платнае навучаньне ў нас ужо зараз даволі распаўсюджанае, і моладзі застаецца толькі зрабіць свой правільны выбар.

# ПАМІЖ ПЭДАГОГІКАЙ І ПСЫХАЛЁГІЯЙ НАРАДЖАЕЦЦА СВАБОДА, або ІНТЭРАКТЫЎНЫЯ МЭТАДЫ НАВУЧАНЬНЯ

Інтэрвію з выпускнікам Беларускага дзяржаўнага пэдагагічнага ўнівэрсытэту імя М.Танка, каардынатарам Рады і намесьнікам старшыні рэгіянальнай маладзёвай асацыяцыі "Новая Касталія" г. Жодзіна, старшынём Рады Цэнтру грамадзянскай адукацыі Віталём Корневым. Гутарку вядзе Ірына Віданава.

Ірына Віданава: *Віталь, скажы, калі ласка, што ты ўкладаеш у панятак інтэрактыўны мэтад навучаньня? І што гэта ўвогуле такое?*

Віталь Корнеў: Інтэрактыўныя мэтады навучаньня – гэта мэтады адукацыі, пабудаваныя на актыўнасьці ўсіх удзельнікаў пэдагагічнага працэсу, якія садзейнічаюць актывізацыі думкавай дзейнасьці і пастаяннаму працэсу самазьмяненьня. Яны дапамагаюць трэнэру (трэнэр – гэта, на прафэсійнай лексыцы, спэцыяліст, які праводзіць сэмінар) пагрузіць удзельнікаў ва ўмовы гульні, што сымулюе рэальную жыцьцёвую сытуацыю, дазваляе ўдзельнікам за кароткі прамежак часу ўбачыць і адчуць гэтую сытуацыю, прааналізаваць свае дзеяньні і дзеяньні іншых удзельнікаў, а таксама памылкі, даць гэтаму ўсяму адзнаку, падвесьці вынікі, набыць пэўныя звычкі і самазьмяніцца. Як навука, інтэракцыя бярэ свае карані ў сацыяльнай псыхалёгіі і зьяўляецца адной зь яе складаючых. Родапачынальнікамі інтэрактыўных мэтадаў навучаньня лічацца Гербэрт Блюмэр, Эрвін Гофман, Гербэрт Кэлі, Дж.Мід. Практычную распрацоўку дадзенай мэто-

дыкі адносяць да 60-70-х гадоў і звычайна зьвязваюць з вайной у Віетнаме, а таксама з унутранымі сацыяльнымі праблемамі тагачаснай Амэрыкі. Справа ў тым, што ўзьнікла неабходнасьць спэцыяльным чынам рыхтаваць амэрыканскіх салдат да надзвычайна складаных умоваў гэтай жудаснай вайны, і ня столькі фізычных, колькі псыхалягічных. Галоўнае было дапамагчы пераадолець той унутраны канфлікт, які быў непазьбежным ва ўмовах абсурднай і страшнай вайны. Так што Злучаныя Штаты Амэрыкі прынята лічыць радзімай інтэракцыі, хаця падобныя мэтады пачалі ўзьнікаць і ў пасьляваеннай Эўропе. У той супярэчлівы час было неабходна шукаць новыя магчымасьці аднавіць паразуменьне паміж нацыямі, падрыхтаваць людзей да сустрэчы з новай культурай. У эўрапейскіх краінах зьявіўся новы накірунак дзяржаўнай палітыкі – сацыяльна накіраваная палітыка, якая ўключала ў сябе ўнутраны і міжкультурны накірункі, а таму па ўсёй Эўропе пачалі ствараца адпаведныя грамадзкія арганізацыі, мэтай якіх было зноўку згуртаваць людзей і распрацаваць асноўныя прынцыпы, сыстэму будучага дэмакратычнага грамадзтва. Тут таксама выкарыстоўваліся інтэрактыўныя мэтады. Зараз жа інтэрактыўны бум ахапіў і постсавецкую прастору, праўда, нас ужо ёсьць каму навучыць, бо як у Амэрыцы, так і ў Эўропе мэтодыка інтэрактыўнага навучаньня распрацавана даволі дасканала.

І.В.: *Віталь, а дзе выкарыстоўваюцца інтэрактыўныя мэтады навучаньня? Ці толькі падчас спэцыяльных сэмінараў, што ладзяцца рознымі грамадзкімі арганізацыямі?*

В.К.: Безумоўна, не. Інтэракцыя – гэта адна з мэтодык навучаньня, а таму карыстаецца папулярнасьцю і ў школах, і ў вышэйшых навучальных установах. У некаторых краінах школьныя праграмы амаль цалкам пабудаваны на інтэрактыўных мэтадах, бо гэта найбольш даступная і эфэктыўная для дзяцей форма навучаньня, заснаваная на зацікаўленасьці і актывізацыі мысьленьня. Безумоўна, ва ўнівэрсытэтах інтэрактыўныя мэтады выкарыстоўваюцца больш абмежавана, але часьцей за ўсё зьяўляюцца абавязковым складнікам навучальнага працэсу. Хачу адзначыць, што нават на Беларусі ўжо існуе факультэт, дзе выкарыстоўваецца гэтая мэтодыка – гэта факультэт пэдагогікі і псыхалёгіі Інстытуту сучасных ведаў на чале з Аляксандрам Перасыпкіным, а адзіным на Беларусі выкладчыкам курсу інтэрактыўнай пэдагогікі зьяўляецца Сяргей Кручынін. Дарэчы, навучальная праграма факультэту зацьверджана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, нават у нас інтэракцыя паціху прыжываецца, хаця пакуль яшчэ на недзяржаўнай глебе.



І.В.: *Віталь, якім чынам адбывалася пранікненьне актыўных мэтадаў навучаньня на Беларусь?*

В.К. Як і большасьць усяго новага, інтэракцыя паціху прасочвалася праз грамадзкія арганізацыі, якія мелі шматлікія кантакты з замежнымі калегамі. Паступова стала зьяўляцца мэтадычная літаратура, якая ўжо была крыху адаптаваная для нашага асяродку праз польскі досьвед. Потым, з ростам цікаўнасьці да Беларусі з боку Эўропы, тут празь мясцовыя грамадзкія арганізацыі сталі ствараца сумесныя пректы, накіраваныя на распаўсюджваньне інтэрактыўных мэтадаў навучаньня, а таксама на падрыхтоўку ўласна беларускіх трэнэраў. Зараз на Беларусі даволі рэгулярна



праводзяцца разнастайныя інтэрактыўныя сэмінары, існуе група людзей, здольная самастойна праводзіць падобныя трэнінгі, працягваецца абмен досьведам. Ужо падрыхтаваны праект, які прадугледжвае вялікую сэрыю сэмінараў, у тым ліку для дзяцей-інвалідаў і так званых складаных падлеткаў.

І.В.: *Давай крыху спынімся на падрыхтоўцы трэнэраў. Хто і як арганізоўвае працэс навучаньня будучых трэнэраў?*

В.К.: Калі казаць пра Беларусь, то мы навучаліся ўжо на напрацаваным замежным досьведзе. Спачатку сябры беларускіх грамадзкіх арганізацыяў наведвалі розныя трэнінгі за мяжой, дзе часьцей за ўсё зьяўляліся шараговымі ўдзельнікамі інтэрактыўных сэмінараў. Потым, аб чым, дарэчы, пісала "Студэнцкая думка", у рэспубліцы быў разгорнуты шырокамаштабны праект па падтрымцы трэцяга сэктару, адна з частак якога прадугледжвала падрыхтоўку беларускай групы трэнэраў. Была праведзена сэрыя сэмінараў, дзе будучыя трэнэры атрымалі неабходныя веды па мэтодыцы правядзеньня інтэрактыўных сэмінараў, дапаможную літаратуру і, у выніку, адпаведныя дыплёмы.

І.В.: *Віталь, ці дастаткова таго, што ты пералічыў, каб лічыцца сапраўдным трэнэрам? Ці маюць нейкае значэньне асабістыя якасьці і прыродныя здольнасьці?*

В.К.: Безумоўна, ня ўсе, хто прайшоў трэнэрскія курсы, сталі трэнэрамі. Дыплёму і мэтадычнай літаратуры недастаткова. Праўда, ёсьць такое паняцьце, як трэнэр-мультыплікатар, г.зн. чалавек, які па дадзенай яму гатовай схеме праводзіць тэматычны сэмінар. Для школы гэта вельмі эфэктыўны мэтад, аднак для больш грунтоўных сэмінараў ён мала падыходзіць. На самой справе, трэнэрская праца заключаецца ня толькі ў каардынацыі ходу заняткаў, але і ў рэфлексіі над вынікамі сэмінару, бо мадэляваньне жыцьцёвай сытуацыі праз гульню мае сур'ёзную псыхалягічную падставу. Асэнсаваньне ўсяго таго, што адбывалася, праходзіць ува ўдзельнікаў звычайна празь нейкі прамежак часу: у каго праз тыдзень, у каго празь месяц, а ў каго і праз год... Трэнэр жа асэнсоўвае фактычна кожны этап працы, праводзіць так званую рэфлексію. Ён і мадэлюе сытуцыю, і кожны раз становіцца яе ўдзельнікам. Ён павінен трымаць сувязь і з кожным, і з усёй групай цалкам. Пры ўсім гэтым трэнэр ведае, да якога выніку ён вядзе гэты сэмінар. Увогуле, інтэракцыя знаходзіцца недзе на памежжы пэдагогікі і псыхалёгіі, а таму трэнэрская праца прадугледжвае і дакладныя веды па гэтых навуках, і досьвед. Што тычыцца рысаў характару, то гэта, перш за ўсё, камунікабэльнасьць і адкрытасьць, плюс пэўная аўтарытэтнасьць. Хаця, скажу шчыра, я, маючы трохгадовую трэнэрскую практыку і пэдагагічную адукацыю, бачу сябе яшчэ недзе на стадыі станаўленьня.

І.В.: *Віталь, а якая тэматычная прастора інтэрактыўных сэмінараў?*

В.К.: Самая шырокая. Нашы першыя сэмінары мелі агульную тэму – "Дэмакратычнае ўзаемадзеяньне". На гэтыя трэнінгі трапляла зусім розная па сваіх поглядах моладзь, якая ня мела ніякага ўяўленьня аб тым, што гэта за форма працы. Людзі прыяжджалі, як гэта і прынята на звычайных сэмінарах, з тэчкамі і нататнікамі, гатовыя слухаць лекцыі, а ім замест пасыўнага праслухоўваньня прапаноўвалі актыўнае дзеяньне.

І.В.: *І якой была рэакцыя?*

В.К.: Самая добрая, на мой погляд, — шчырая. Можа, таму, што аўдыторыя ня ведала, чаго чакаць, але была вельмі адкрытай і ахвотна ўключалася ў працу. Мы прапаноўвалі нешта новае, але цікавае. Ужо да канца першага дня сэмінару (звычайна ён праходзіць 4-5 дзён) група, у якой зьбіраліся прадстаўнікі розных, нават варожых груповак падлеткаў, станавілася адзіным арганізмам. Людзі пачыналі праяўляць цікаўнасьць да адрозных ад іх поглядаў на жыцьцё. Галоўнай жа мэтай гэтых сэмінараў было паказаць нашым шмат у чым закамплексаваным людзям, што такое грамадзтва выбару і як у ім жыць, а таксама навучыць прыймаць і разумець пазыцыю іншай асобы. А гэтаму сапраўды трэба вучыцца.

І.В.: *Аднак моладзь – найбольш мабільная частка грамадзтва, яна хутка прыстасоўваецца да новых умоваў. А як наконт дарослай аўдыторыі? Ці ёсьць у цябе досьвед працы ў гэтай галіне?*

В.К.: Так, мы правялі шэраг сэмінараў для супрацоўнікаў камітэтаў па справах моладзі пры выканкамах па Менскай вобласьці. Звычайна, спачатку аўдыторыя была настроена крыху насьцярожана і ўспрымала ўсё, што адбывалася, як гульню, аднак падключалася да яе даволі ахвотна (мне наогул падалося, што некалькі пакаленьняў нашых людзей крыху не дагулялі ў дзяцінстве). Тым ня менш, ужо празь нейкі час прыходзіла разуменьне таго, што ўсё гэта нешта больш сур'ёзнае за простую гульню. Уявіце сабе, што мы прапанавалі змадэляваць нейкую спрэчную сытуацыю, калі група, па ўмовах гульні, падзялялася на тых, хто падтрымлівае дадзены пункт гледжаньня, і тых, хто лічыць яго цалкам памылковым. Акрамя дзьвюх груповак існуе ўлада са сваім стаўленьнем да праблемы і пэўнымі правамі, і прэса, якая ўсё гэта асьвятляе. Задача: знайсьці кампраміснае выйсьце з дадзенага становішча. Ну чым не жыцьцёвы прыклад? Падобная практыка дапамагае знаходзіць рашэньне хваравітых праблемаў ужо ў рэальным жыцьці, тым больш, што сытуацыі мадэлююцца з улікам мясцовай спэцыфікі. У выніку, ад маласур'ёзнага першапачатковага стаўленьня нічога не засталося. Наадварот, да нас зьвяртаюцца з просьбамі правесьці яшчэ шэраг такіх сэмінараў.

І.В.: *Віталь, а што звычайна адбываецца з групай пасьля заканчэньня сэмінарскага дня?*

В.К.: Галоўнае правіла, прынятае для ўсіх сэмінараў, наступнае: свабода аднаго чалавека не павінна пачынацца там, дзе заканчваецца свабода іншага чалавека. Шмат чаго, безумоўна, залежыць ад трэнэра, ад таго, наколькі ён здолее зарганізаваць групу ў адзінае цэлае, стварыць нармалёвы псыхалягічны, актыўны асяродак. Акрамя таго, звычайна група сама распрацоўвае нешта накшталт кодэксу правілаў. Напрыклад, вырашае, што на сэмінары не прынята спазьняцца на заняткі ці забаронены алькаголь і г.д. Калі адміністрацыя будынку, які арэндуецца, папярэджвае аб нейкіх унутраных правілах, то трэнэр паведамляе іх удзельнікам і ўносіць у "кодэкс". Усё гэта занатоўваецца на вялікім аркушы паперы і, як правіла,

Працяг на ст. 34



# Нелегендарны Полацак

Віктар Мухін

Чаму менавіта нелегендарны? Бо гэты горад нам вядомы толькі як чароўная мясьціна, зь якой зьвязаныя імёны людзей, якія сталіся гонарам нацыі: пачынаючы ад князя Рагвалода й першадрукара Францішка Скарыны і заканчваючы нашымі сучасьнікамі – ад Сержука Сокалава-Воюша да Ўладзімера Арлова.

Які Полацак сёньня? Як выглядае напрыканцы XX стагодзьдзя наша першая сталіца?

## Першыя ўражаньні

На ўезьдзе ў Полацак найперш кідаюцца ў вочы гарадзкія кантрасты: шматпавярховікі на ўскраінах і драўляныя хаткі ў Запалоцьці ды ў Задзьвіньні; гістарычная забудова ў цэнтры, добра прарэджаная гмахамі ў стылі сталінскага клясыцызму й застойнага канструктывізму.

Прарваўшыся праз корак, што ўтварыўся на адной з задзьвінскіх вуліцаў, аўтобус уяжджае на мост празь Дзьвіну, зь якога найлепей бачныя галоўныя гарадзкія дамінанты: удалечыні прыгажуня Сафія, побач “дом з вушамі” (збудаваны на месцы зруйнаванага ў 1964 годзе касьцёла сьвятога Стэфана) і Богаяўленская царква, а таксама “чортавае кола” мясцовага парку культуры й адпачынку.

## Карл Маркс і Францішак Скарына

Галоўная вуліца гораду носіць імя чалавека, жыцьцё й дзейнасьць якога, напэўна, вельмі цесна былі зьнітаваная з “бацькам беларускіх гарадоў”. Гэта – слаўны сын нямецкага народу Карл Маркс. Праўда, гарадзкія ўлады, як ні дзіўна, не забыліся на яшчэ аднаго сына, ужо свайго народу – Францыска Скарыну – і паставілі яму вялізны помнік. А каб помнік не выглядаў як уступка беларускім “нацыяналістам”, пад ім вывелі надпіс на “мове міжнацыянальных стасункаў СССР”: Франциск (Георгий) Скорина. З часам “Георгий” зьнік, а пакінутыя

словы пераклалі на мову “нацыяналістаў”. Вуліца Карла Маркса, як была, гэтак і засталася.

## Павук поўзаў нядоўга...

... бо не здагадаўся схавацца да таго часу, як у ванну 518-га пакою полацкага гатэлю “Дзьвіна” зазірнуў новы жыхар. Гэтую істоту напаткаў лёс вадалаза, які не вярнуўся са свайго чарговага падводнага падарожжа...

Наагул, “Дзьвіна” пакідае па сабе супярэчлівыя ўражаньні: з аднаго боку – рамонт фасадаў будынку з раніцы да вечара стварае шмат нязручнасьцяў, зьвязаных з гэткага кшталту мерапрыемствамі, у дадатак а дзявятай увечары з экрану тэлевізару, што прымае толькі адзін канал, высоўваецца галава «бацькі» й пачынае моцна крычаць; з другога боку, калі ня ўлічваць адсутнасьці гарачае вады, гатэль зьдзіўляе адноснай чысьцінёй і ахай-насьцю.

## Галодны край

Стан харчовае індустрыі ў Полацку знаходзіцца ў такім жахлівым стане, што нават булачку часам немагчыма набыць, а ёгурт будзе калі не атручаны, то абавязкова сапсаваны. Дзеля гэтага выправу ў старажытны культурны й гандлёвы цэнтар Беларусі варта пачынаць з набыцьця прадуктаў у сваім родным горадзе, інакш у Полацку можна калі не памерці галоднаю сьмерцяй, дык добра схуднець... Бо нават тыя кавярні, што засталіся ад савецкіх часоў, ня ўражваюць разназборам страваў, але кідаюцца ў вочы астранамічныя кошты й паводзіны абслугі (калі “афіцыянтка” ледзь ня ў нос тыцкае анучу, якой хвілю таму выцерла стол і патрабуе хутчэй даядаць халодны булён, бо, маўляў, не хапае посуду для іншых наведнікаў). Варта, праўда, адцеміць, што цэны на пабытовыя тавары — халадзільнікі, тэлевізары, валізы ды інш. — у Полацку нашмат меншыя за сталічныя.

## Спасаўская царква, або Камуналка XII стагодзьдзя

Старажытны манастыр сьвятога Спаса ўвесь час рамантуецца ды рэстаўруецца: ягоныя муры з кожным разам яшчэ болей зьзяюць беляй сьценаў і пазалотаю крыжоў. Але гэта толькі звонку, зь сярэдзіны ж усё інакш. У старажытнай Спасаўскай царкве хоць паціху — дзякуючы самаахвярнай працы рэстаўратараў, а фактычна аднаго чалавека, Віктара Ракіцкага — але раскрываюцца невядомыя дагэтуль нікому фрэскі XII стагодзьдзя, што пакрываюць сьцены ўсяго храму ад слупоў да купалу. Аднак невядома, ці ўбачым калі-небудзь канчатковы вынік рэстаўрацыі гэтай адзінай цалкам захаванай да нашага часу царквы-сучасьніцы сьвятой Эўфрасіньні, паколькі не хапае прафэсійных рэстаўратараў і, як заўжды, грошай, каб паскорыць аднаўленьне помніку. Праўда, і праваслаўнае духавенства ня вельмі заклапочанае гэтым пытаньнем: адно тое, што ў аўтары храму стаіць мінімум печка, максымум кацельня, не бянтэжыць ягоных гаспадароў, інакш не тырчэў бы з апсыды сьвятыні комін, што любіць узімку падымець і гэтым самым нагадаць камунальную кватэру, адно што XII стагодзьдзя...

Калі нехта прыяжджае ў Полацак з надзеяй паглядзець на копію славутага крыжа, выробленага ў сярэдзіне XII

стагодзьдзя майстрам Лазарам Богшам на заказ прападобнай Эўфрасіньні, які быццам бы ляжыць у Спасаўскай царкве, той адразу расчароўваецца, бо крыж насамрэч днюе й начуе ў рэзыдэнцыі полацкага япіскапа і выносіцца для пакланеньня толькі па нядзелях і вялікіх царкоўных сьвятах, а таму сучасны крыж як быў, гэтак і застанецца ўсяго толькі высокамастацкай копіяй і ніколі ня зможа замяніць арыгінальнае сьвятыні, загубленай падчас апошняй сусьветнай вайны.

Аматараў полацкіх старажытнасьцяў можна расчараваць яшчэ адным "сюрпрызам". У кельлю Эўфрасіньні заўжды пільныя манашкі нікога не пускаюць, нават калі вельмі добра папрасіць (безумоўна, калі гэта не прэм'ер-міністар, прэзыдэнт, сябры беларускага Экзархату, тэлебачаньне ці блаславёныя асабіста япіскапам вернікі – на ўсё патрэбная санкцыя).

Аднак і без таго ёсьць на што паглядзець у найстаражытнейшым цэнтры духоўнасьці на нашых землях — манастыры сьвятога Спаса, закладзеным васямсот гадоў таму патронкай Беларусі прападобнай Эўфрасіньняй, ігуменьняй Полацкай.

## Начныя сылюэты

Калі ўначы ня хочацца спаць, няма нічога лепшага, як пастаяць на беразе халоднай і каламутнай Дзьвіны, а потым паблукаць па таямнічых крывых вулках старога гораду. Мінаючы Богаяўленскі сабор, былы кляштар францішканцаў, будынкі былога праваслаўнага брацтва, дзе зараз месьціцца музэй кнігадрукаваньня, лютэранскую кірху, старыя мураваныя й драўляныя дамкі, здаецца, што трапіў у казку: будынкі, асьветленыя поўняй ды ліхтарамі, быццам прывіды выпаўзаюць зь цемры ночы й адносяць на паўтара стагодзьдзя назад... Яшчэ мацней гэта адчуваецца каля Сафійскага сабору, што велічна ўзносіцца над навакольлем і стварае пачуцьцё нікчэмнасьці чалавека перад хараством сваіх магутных і адначасова вытанчаных формаў. Асаблівы дух вякоў мінулых лунае над былой езуіцкай Акадэміяй: чамусьці здаецца, што вось-вось выйдуць здані ўсіх ейных выпускнікоў, ад Мацея Казімера Сарбеўскага да Яна Баршчэўскага, і горад ажыве, а замест "дому з вушамі" на імшу будуць зноў клікаць званы касьцёла сьвятога Стэфана. Аднак гэтыя начныя мроі ніколі ня спраўдзяцца...

P.S.

Наагул, у Полацак, нягледзячы на павукоў у ваннах і пустыя паліцы ў крамах, трэба ехаць, бо ня гэта галоўнае. Галоўнае – дух гораду, у які хочацца патрапіць, бо менавіта тут найбольш, чым дзе, горды за сваю краіну, тут знаходзіш свае вытокі, якіх так доўга шукаў...



Ірына Віданава

# Аднаўленьне Традыцыі

Так атрымалася ў савецкі час, што горад, які зьяўляецца скарбніцай беларускай культуры, які заўжды славіўся сваімі адукацыйнымі традыцыямі, дзе нарадзіліся нашыя славутыя продкі ды знакамітыя сучасьнікі, і дзе выдатныя археолягі адкрывалі для нас нашае мінулае, гэты горад ня меў уласнай вышэйшай навучальнай установы, здольнай паказаць, захаваць і перадаць новым пакаленьням гісторыю горада-міту, славутага Полацку. Безумоўна, нават тады, калі Беларусь, як і іншыя краіны былога СССР, ня мела права на ўласную гісторыю, у Полацку ўсё ж стаяла Сафія і Спаса-Прэабражэнская царква, дзейнічалі краязнаўчыя музэі, а ў паветры лунала беларуская мінуўшчына, пазбавіцца ад якой немагчыма ў горадзе, якому больш за адзінаццаць стагодзьдзяў. Аднак разам з многімі архітэктурнымі і духоўнымі помнікамі паступова страчвалася і нешта іншае – гістарычная сьвядомасьць людзей. Сучаснасьць захліснула Полацак: як грыбы вырасьлі помнікі Леніну, зьявіліся традыцыйна савецкія назовы вуліцаў, вядучым стаў "каробачны" архітэктурны стыль... А сорак год таму прыкладна ў 30 км ад старога гораду зьявіўся новы цэнтар, але ўжо прамысловы – Наваполацак. Ён і стаў alma mater новай вышэйшай установы, якая адказвала стратэгічным патрэбам часу і ўвасобілася ў Полацкім політэхнічным інстытуце. Так бы, напэўна, усё і ішло па агульнай, зададзенай аднекуль здалёк схеме, калі б не разваліласяў адзін дзень пампэзная, але гнілая знутры савецкая сыстэма, а разам зь ёй зьнік і ідэйны стрыжань, на якім яна трымалася. Але духоўны падмурак зьяўляецца неад'емнай часткай для зямнога быцьця, а ён – у нашых каранёх. І гістарычная памяць, часам на ўзроўні падсьвядомасьці, захоўваецца ў людзей, і ў крытычныя моманты вяртаецца, каб дапамагчы выжыць. Можа, у гэтым і ёсьць сакрэт стойкасьці чалавечага роду?

Адраджаць нам прыходзілася ня толькі гістарычныя помнікі, але і духоўную сувязь паміж мінулым, сучасным і будучым, каб перакінуць масток да розуму нашчадкаў, а гэтага можна дасягнуць праз выхаваньне і адукацыю. Першым крокам у гэтым накірунку для Полацку стала пераўтварэньне політэхнічнага інстытуту ў Полацкі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Спачатку тут зьявіліся эканамічныя спэцыяльнасьці, а ў 1993 годзе і філялягічны факультэт. Праз год раней асобна існуючая катэдра гісторыі была

ўключана ў яго склад, і факультэт стаў гісторыка-філялягічным на чале з дэканам Інэсай Васілеўнай Селіванай (па адукацыі — філёляг). Па сваёй структуры факультэт падзяляецца на катэдру філялёгіі і катэдру гісторыі і сацыялёгіі, якія функцыянуюць фактычна аўтаномна. Кожная з катэдраў прапаноўвае студэнтам нескалькі спэцыяльнасьцяў. Для гісторыкаў – гэта гісторыя Беларусі і гістарычная інфарматыка. Выбар, відавочна, небагаты, але і факультэт вельмі малады, дый складанасьцяў шмат. Галоўнае, аднак, каб было жаданьне нешта рабіць і хоць крыху грошай (з апошнім, на жаль, зусім дрэнна). Задумаў жа ў выкладчыцкага калектыву на чале з Васілём Іванавічам Шайковым шмат. Была, напрыклад, ідэя разьмясьціць гістфак у будынку былой езуіцкай калегіі, каб нават самыя сьцены стваралі адпаведную факультэту атмасфэру, праўда, грошай на рамонт не далі, і зараз гістфак месьціцца на двух паверхах аднаго з карпусоў унівэрсытэту. Але нават тут удалося стварыць асаблівы асяродак. Па-першае, выкладаньне практычна ўсіх дысцыплінаў вядзецца на беларускай мове. Па-другое, выкладчыкі тут у асноўным маладыя, якія некалькі год таму скончылі гістарычны факультэт БДУ і зараз, у большасьці, зьўляюцца асьпірантамі, а таму яшчэ, як кажуць, не перагарэлі, што выдатна адчувае падчас лекцыяў і аўдыторыя. Па-трэцяе, наборы тут невялікія (на кожным курсе прыкладна па трыццаць чалавек), а таму і выкладчыкі, і студэнты ведаюць адзін аднаго асабіста, што прымушае апошніх да большай адказнасьці, чаго часам не стае ў сталічных ВНУ. А яшчэ ў невялікім Полацаку выкладчыкі і студэнты вельмі згуртаваныя, а таму лучнасьць іх працягвасцца і па-за аўдыторыямі. Так, амаль аднachасова з адкрыцьцём гісторыка-філялягічнага факультэту па ініцыятыве маладых выкладчыкаў была ўтворана культурніцкая суполка "Княжыч", куды зараз разам уваходзяць і выкладчыкі, і частка студэнтаў. Яны зьбіраюць фальклёр па вакольных вёсках, вывучаюць аўтэнтычныя сьпевы і танцы, адраджаюць забытыя народныя абрады… І ўсё гэта не для нейкай справаздачы, а для душы, бо разам сьвяткуюць Купальле і Каляды (прычым калядуюць ня толькі ў суседніх вёсках, але і ў самім горадзе), выступаюць з канцэртамі і г.д. І людзям, дарэчы, вельмі падабаецца, запрашаюць прыйсьці яшчэ раз…

Праблемаў у факультэту, безумоўна, шмат. Галоўная зь іх — катастрафічна не хапае выкладчыкаў, а таму тым, хто ёсьць, прыходзіцца выкладаць дысцыпліны нават не па спэцыялізацыі, бо праграма навучаньня аналягічная той, па якой вучыцца гістфак БДУ, дзе зараз восем катэдраў. На полацкім жа гістрычным факультэце выкладчыкаў усяго толькі дзевяць: Васіль Іванавіч Шайкоў, Уладзімер Сяргеевіч Філіпенка, Вольга Антонаўна Емяльянчык, Уладзімер Аляксандравіч Лобач, Юрась Фёдаравіч Усьціновіч, Аляксандар Аляксандравіч Шышкоў, Рыма Міхайлаўна Ларына, Віталь Уладзімеравіч Галубовіч, Сяргей Пятровіч Версан. Гэтымі людзьмі ня проста быў створаны новы факультэт, які будзе забясьпечваць маладымі спэцыялістамі навакольныя школы, яны сваім энтузыязмам і ведамі разам са студэнтамі аднаўляюць традыцыі славутай полацкай адукацыі, ды і гісторыі ўвогуле. Акрамя таго, полацкі гістарычны факультэт яшчэ толькі на пачатку свайго станаўленьня і, магчыма, у недалёкай будучыні ён стане адной зь вядучых гістарычных установаў рэспублікі – усе дадзеныя для гэтага ёсьць.

P.S.

Ад імя рэдакцыі "Студэнцкай думкі" выказваем вялікую падзяку Тацяне Каліноўскай – студэнтцы гісторыка-філялягічнага факультэту полацкага дзяржаўнага ўнівэрсытэту — якая пазнаёміла нас зь сёньняшнім Полацкам і яго цудоўнымі людзьмі.

Крысьціна Сідун

# РАДЗІМА Гісторыі

Зь піўной Панікоўкі скрозь абліхтарэлы праспэкт я бегла, трымаючыся за парасон, каб пасьпець на начны цягнік і сустрэцца з раніцай у казцы. Менавіта ў казцы,




бо гэта адзіны сынонім, што мая сьвядомасьць знаходзіла для Полацка. Я ехала ў легенду, я шукала сапраўднасьць…

Спадарожнік доўга чакаў, калі суседкам надакучыць "прикалываться" і яны пачнуць размаўляць як "нормальные" людзі; гукі "мовы дзядоў" здаваліся дзіўнымі і ён ня мог узгадаць, калі апошні раз чуў іх. І ўсё ж мы сталі сябрамі, бо ехалі ў Полацак.

Каля помніку правадыру, які яшчэ памятае, як выхаванцы на год узнагародзілі яго яскрава-блакітным колерам, нас чакала сапраўдная палачанка і тыповы рыцар…

Мы рушылі ў сучаснасьць - Наваполацак. Гэта горад, дзе зьвесткі пра тое, што Беларусь жыве, не зьяўляюцца ананімкай. Яе бачыў Яська, а ён адказвае за свае словы.

Полацкі ўнівэрсытэт зьнешне нічым ня розьніцца ад сваіх братоў па жабрацтве ды прыгожай назьве, але мы ведалі, што тут Беларусь ня проста жыве, а мае надзейны прытулак і сяброў, якія не падзяляюцца на студэнтаў і выкладчыкаў. "Княжыч" яднае іх.

Наваполацак рыхтаваўся да сьвята—саракагодзьдзя існаваньня на гэтай грэшнай зямлі. Менавіта існаваньня, бо адзначаць жыцьцё імпрэзамі кшталту "Інаўгурацыя", "Сустрэча вэтэранаў камсамолу", "Дэгустацыя алькагольных

напояў", "Міннае поле цудаў" могуць хіба што "рукатворныя людзі". Аднак да ўрачыстасьці рыхтаваліся: фарбавалі, мылі, падмацоўвалі…Хто вадзіў пэндзлем па каляровай вадкасьці таму, што праца такая, хто з задавальненьнем ад зьдзяйсьненьня мары замазаць сьведчаньні пра жыцьцё нейкай дзіўнай істоты зь імем Беларусь, а некаторыя проста хацелі падараваць дзецям радасьць.

Сяргей Анішчанка (Аніса) сустрэў нас у гарадзкім парку, дзе маляваў вясёлыя вочкі ды вушкі на дзіцячых арэлях. Славуты кіраўнік "Зьніча", гаспадар гасьцёўні "Ў Анісы", лідэр "Грунвальду",чалавек, пра якога землякі ўзгадваюць з гонарам і павагай, разам са знакамітым Аленам надавалі цывілізва ы выгляд месцам "культурнага адпачынку" гараджан. "Ня думаць трэба, што рабіць, а рабіць, працаваць увесь час на радасьць людзям і сабе,"— хто з вас, менскія "змагары", згодны жыць па такім прынцыпе, у якасьці заробку атрымліваючы толькі павагу да самога сябе?



Супольнасьць Усяслава Чарадзея—арганізацыя, родная аналагічнай менскай. І кірункі дзейнасьці—адукацыя, адраджэньне нацыянальнай культуры, быццам аднолькавыя. Толькі бліжэйшыя ўсё ж палачане да вытокаў гэтай культуры. І няхай сталіца забірае да сябе лепшых людзей, ідэі і сродкі для іх ажыцьцяўленьня. Крынічка каля Сафіі—сымбаль чысьціні і сапраўднасьці ўсяго, што нараджаецца на гэтай зямлі, дае неверагодна смачную ваду нягледзячы на тое, што адпаведна часу даўно закаваная ў трубы. Таму з такой упэўненасьцю сьцьвярджаюць Васіль Храмцоў і Ўладзь Кунцэвіч, што не зьбяднее Полаччына на вялікія постаці.

І сябруе Фронт з Грамадою, і мітынгі, забароненыя мясцовымі ўладамі, разам ладзяць, пра што і распавёў нам Уладзімер Гацкі (прадстаўнік Рады мяцовага Фронту). Дзіўна, але менскія міжусобныя разборкі не адбіваюцца на жаданьні палачанаў працаваць. Крыўдна ім толькі, што падчас падзелаў забываюцца ў сталіцы на тое, што жывуць і працуюць яны для Бацькаўшчыны. Не, не вымаўляюць услых прыгожыя і гучныя словы, а працуюць - шчыра , сумленна, аддана. І вельмі ўдзячныя, калі хтосьці проста цікавіцца іх працай, тэлефануе час ад часу, прыяжджае ў госьці.

Таня Каліноўская, якая цэлы дзень вадзіла нас па горадзе, знаёміла зь людзьмі і помнікамі, марамі і рэчаіснасьцю, зьлілася ў маіх успамінах з вобразамі Дзьвіны і Палаты, стала часткай той моцнай і глыбокай сапраўднасьці, якую я знайшла на радзіме гісторыі - на полацкай зямлі.

-Як жа вы прыгожа размаўляеце! - зьдзіўлялася жанчына ў цягніку. - Як званочкі галасы, гаворка так мякка ліецца. Мова наша родная! Як добра, што хоць моладзь ёй карыстаецца. Дзякуй вам, дзяўчынкі! Так даўно ня чула, як паветра сьвежага глытнула зараз.

Жыве, будзе жыць Беларусь, пакуль людзі нашыя сэрцам мову адчуваюць, крынічка каля Сафіі бяжыць, Яська вітае беларусачак, а Полацак рады гасьцём…

Illa Hlyboúski

# ŽURNALISTY DLA RAŹVIĆCIA DEMAKRATYČNAHA HRAMADZTVA NA BIEŁARUSI

Tak zaviecca prahrama, jakuju realizujuć „Fundacyja raźvićia miascovaj demakratyi" (Ščecin, Polšča) dy Biełaruski respublikanski fond padtrymki demakratyčnych reformau imia Lva Sapiehi pry udziele Asacyjacyji „Volnaje Słova" dy centru „Supolnaść" u miežach **prajektu PHARE-TACIS.**

Hetaja prahrama pačałasia z adboračnych seminaraú, jakija adbyvalisia ú sakaviku-krasaviku u Horadni, Miensku i Mahilovie. Na hetych sieminarach byli adabrany hrupy pa 20 žurnalistaú dla praciahu navučańnia ú Ščecinie. Navučańnie składajecca z troch adukacyjnych pajezdak dla kožnaj hrupy. Vynikami navučannia stanuć vypusk šaści hazet (pa dva numary koznaj) dy padručnika dla biełaruskich žurnalistaú.

Užo adbylisia 2 pajezdki dla kožnaj z troch hrupaú. Padčas pieršaj (tydniovaj) byú zrobleny padzieł hrupy na dźvie kankurujučyja redakcyji dy raspačata padrychtoúka pieršaha numaru hazety. Padčas druhoj, užo dvuchtydniovaj pajezdki byli zmakietavany dy vydany pieršyja numary hazet: „BAČ", „BNR", „Dziki Žuv", „Prosta Razam", "Ruch", „Vučniouskaja".

Akramia padrychtoúki hazet, žurnalisty ź Biełarusi słuchali lekcyi lepšych ščecynskich žurnalistaú, psycholahaú, makietolahaú dy inšych admysłoúcaú. Adbylisia ekskursiji da ščecinskaha biuro „Gazety Wyborczaj", redakcyi hazety „Glos Ščeciński", ščecinskich radyjo dy televiziji, poznańskich časopisaú „Wprost" i „W drodzie", a taksama sustreča z vydaúcom i redaktaram „Gazety Chojenskoj".

Biełaruskija žurnalisty daviedalisia pra asablivaści paústavańnia dy isnavańnia polskich svabodhych SMI. Z dapamohaj polskich byli paraúnany dy vyznačany asablivaści SMI Biełarusi.

Napieradzie – vydannie jašče adnaho numaru hazet. Treba dadać, što ú prahramie biaruć udzieł 4 siabry ZBSu.



# Менск – Шчэцін – Менск

## альбо Падарожжа дамоў

Віктар Мухін

Менск

Калі ўжо сеў у цягнік і ведаеш, што праз хвілю ён пакіне поўную люду пляцформу, адольвае радасьць, выкліканая цішынёй купэ і пачуцьцём палёгкі, бо цэлыя два тыдні будзеш адпачываць ад краіны чырвонае зяляніны, якая адзіная сярод сваіх чатырнаццацёх сёстраў засталася ў СССР. Вось мінаеш лецішчы менчукоў і ўжо нічога да самае мяжы ня будзе сьведчыць пра тое, што зьяўляесься грамадзянінам РБ, а не Беларусі, і што ў кішэні мусіць ляжаць сіняя кніжачка з капустай, пасаджанай у нетрах адміністрацыі ўсенароднаабранага і любімага 14 траўня 1995 году. Едучы са сваімі сябрамі ў адным вагоне на журналісцкія варштаты (ці — па-наску – сэмінар), ужо ўяўляеш, як уздымеш ля будынку заўжды гасьціннай фундацыі нацыянальны двукалёр, быццам і не было тых, для каго ён уяўляе гэткую ж небясьпеку, як чачэнскія тэрарысты ці афганскія маджахеды.

Баранавічы

Гэтае шэрае мястэчка ўначы становіцца такім чорным, што толькі з падказкі суседа даведваесься, быццам недзе ўдалечыні, дзе мільгацяць агеньчыкі, жывуць людзі. Цягнік ненадоўга спыняецца ў гэтых мясьцінах і зноў кранаецца ў дарогу, узяўшы на борт яшчэ некалькі маладых журналістаў з Горадні й Баранавічаў, што таксама ня хочуць пісаць у “Советскую Белоруссию”, але хочуць жыць і працаваць у вольнай сінявокай краіне, а не на шэрых савецкіх ускраінах.

Берасьце — Варшава

Празь цемру ночы прапаўзаюць серп і малаток – і гэта азначае, што перад усёй нашай журналісцкай грамадой паўстае велічны берасьцейскі вак-

зал, фасад якога зусім не зьмяніўся з таго часу, як жылі генэральныя сакратары, а ўся краіна дружна пляскала ім у ладкі. У Берасьці да нашае кампаніі далучаецца яшчэ адзін чалавек і цягнік едзе далей у нейкі вялізны сьвіран з высокай стольлю й маленечкімі людзьмі, што мітусяцца паміж доўгімі суставамі вагонаў. Нарэшце будуць мяняць колы, а пакуль яны мяняюцца, пасьпяваеш паразважаць на тэму адзінае Эўропы з аднолькавай шырынёй чыгуначнае каляіны для ўсіх краінаў, пра адчыненыя граніцы й ветлівых памежнікаў, якія ня будуць крычаць ледзь ня ў самае вуха: "Паспорты позже получите!", — а патлумачаць, што дзеля перасячэньня граніцы з суседняй дзяржавай у пашпарце трэба паставіць адпаведны штампік (каб не забываўся на тое, што зьяўляесься ня ней-



кім там бяз роду, бяз племені эўрапейцам, а беларусам). Сам факт перасячэньня мяжы, аднак, не перашкодзіць суседу па купэ задаць пытаньне: "Колькі да мяжы?" Адказ будзе вельмі лякацічны: "Табе да якой – да дзяржаўнай ці этнаграфічнай?" Пытаньне, дарэчы, абсалютна абгрунтаванае. Асабліва калі ўлічыць, што на тэрэспальскіх могілках акрамя ўкраінскіх (і, зрэдзьчасу, беларускіх) прозьвішчаў на надмагільлях амаль не сустрэнеш польскіх "nazwisk", а за Тэрэспалем, далей, на ўсход, пойдуць назвы, як, напрыклад, Малашэвічы, якія нагадаюць пра родную вёску Квасынічы, што пад Слуцкам.

Пры набліжэньні да Варшавы чамусьці ўсім хочацца ў камэру пад інтымнай назвай "toaleta", а пакуль туды немагчыма прабіцца, даводзіцца сядзець у купэ і слухаць радыё, зь якога нейкая "звезда" ў сваёй песеньцы паведамляе: "Ты видишь, как падает снег и как короток век". Але выглядае гэта сьвядомай хлусьнёй, бо за акном сьвеціць сонейка, а жыцьцё насамрэч яшчэ толькі пачынаецца...

## Варшава

Сталіца III Рэчыпаспалітай Польскай сустракае заспанымі людзьмі і пыльнымі вуліцамі. Сталіца – нічога ня скажаш...Увогуле, калі няма чаго рабіць цэлых шэсьць гадзінаў да прыбыцьця цягніка на Шчэцін, дык найлепей пабадзяцца па "starym mieście warszawskim" і заадно ўзгадаць беларускія гарады, якія маглі б выглядаць ня горш за тую ж Варшаву, каб...Аднак гісторыя ня ведае ўмоўнага ладу...

Нататка для цікаўных: у кожнай другой варшаўскай кнігарні можна без праблемаў адшукаць і набыць "Polsko-białoruski / Białorusko-polski słownik" на дваццаць тысяч словаў у абедзьвюх частках, у той час як у Беларусі навучыліся толькі перавыдаваць "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Кандрата Крапівы.

## Варшава-Шчэцін

Польскія цягнікі ня лепшыя за "нашыя" па зручнасьці (адно што крэслы мяккія), але "наш" разы ў два паўзе павольней, што не надае яму гонару ў вачох польскіх "калегаў".

Калі едзеш з аднаго ў другі канец краіны белага арла й бела-чырвонага сьцягу, амаль ніколі ня ўбачыш драўляных хатак. Людзі жывуць у мураванках, нашыя ж калгасьнікі дагэтуль, як і сто гадоў таму, туляюцца па сваіх каморках. Яшчэ адной адметнасьцю польскіх гарадоў і мястэчак зьяўляюцца велічныя касьцёлы з барокавымі й гатычнымі вежамі, што ўзносяцца на недасягальную вышыню, а таксама чырвоныя ад дахоўкі стрэхі дамоў. Нашыя ж "населеныя пункты" адразу пазнаюцца па любых воку кожнага савецкага чалавека комінах заводаў ды фабрык і па шыфэрна-бляха-

вых дахах хрушчовак.

Шчэцін разьмешчаны ў гістарычнай вобласьці "Заходняе Памор'е", што вельмі розьніцца ад астатняе Польшчы перш за ўсё зьнешнім абліччам гарадоў – усё наскрозь нямецкае: ад архітэктуры да зьнешняга выгляду прастораў, што некалі належалі нямецкім князём ды баронам. Славяне вярнуліся на гэтыя землі толькі пасьля апошняе вайны. Адразу ж усё паморскае натуральна стала "польскім", і самых старажытных славянскіх насельнікаў гэтых земляў зараз называюць "палякамі". Няйнакш, такі ж самы лёс чакаў у міжваенны пэрыяд і Заходнюю Беларусь, каб увасобілася ў жыцьцё ідэя "kresow wschodnich".

І ўсё ж зачароўваюць нерасьпешчанае вока беларуса дагледжаныя лясы й палеткі, а таксама ўсё, што на іх расьце і збудавана, бо пачуцьцё гаспадара выхоўваецца з маленства ў кожнай польскай сям'і. Паляк сам сабе гаспадар-пан на сваёй зямлі і асабіста адказвае за свой лёс, а ўсе разам – за лёс Айчыны. Ад кожнага паасобку залежыць будучыня яго, ягоных дзяцей і яго краіны.

## Шчэцін

Найперш гэтае места ўражвае сваёй архітэктурай, што дакладна адпавядае мясцоваму краявіду, таму цяжка ўявіць, быццам некалі тут нічога не было апроч непраходных лясоў і балотаў. Большасьць камяніцаў адносіцца да канца XIX- пачатку XX стагодзьдзя і збудаваная ў мадэрнавым, нэагатычным і нэабарокавым стылях. Нават сучасныя гмахі настолькі дакладна спраектаваныя і ўпісваюцца ў гістарычнае аблічча гораду, што часам здаецца, быццам гэта таксама мадэрн (ці постмадэрн?), але з бэтону й шкла, хоць насамрэч звычайны канструктывізм, больш блізкі да менскага Дому ўраду, чым да шчэцінскіх нэастылявых камяніцаў. Эпоха гістарызму ў архітэктуры Шчэціну наўрад ці калі-небудзь скончыцца. Бо як і сто год таму, у прэстыжных раёнах з прыватный забудовай камяніцы больш нагадваюць асабнякі графаў ды маркізаў, чым проста заможных палякаў. Часам падробка пад даўніну да такой ступені дасканалая, што й ня скажаш, быццам яна зроблена ўсяго нейкіх пяць-дзесяць гадоў таму. Наогул, архітэктура Шчэціну гэта такая рэч, да якой прыдасца заўсёдная прымаўка: лепей адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць. І так ёсьць папраўдзе.

Асобнай гаворкі заслугоўваюць палякі як людзі. Дзе б ні сутыкнуўся з чалавекам – ці то ў краме, ці на вуліцы – заўжды будзе ветлівае абыходжаньне. Калі паляк незнарок закрануў мінака плячом, а ня дай Бог наступіў на нагу – заўсёды скажа "przepraszam". У краме ж прадавец абавязкова скажа "dzikkujk" за набытую рэч ці словам „prosze" прапануе агледзець асартымэнт тавараў. Простыя словы, простыя рэчы, што сталіся часткай паўсядзённае культуры палякаў. Тут нельга не ўзгадаць Беларусь зь ейным паўсюдным бескультур'ем і хамствам, чэргамі па каўбасу і ледзь не паўгадзінным чаканьнем ля крамнае паліцы, пакуль хто-небудзь зробіць ласку ўзважыць кіляграм памідораў ці прадаць пушачку запалак...

Шчэцін сваім абліччам больш падобны да ўсходненямецкіх гарадоў, а ягоныя жыхары гэта пераважна мігранты з "kresow", а таксама з цэнтральнае і ўсходняе Польшчы. Таму тут, напрыклад, вельмі моцная ўкраінская дыяспара, таксама ёсьць і беларусы (а дзе іх няма?), якія, аднак, гуртавацца ня тое каб не зьбіраюцца, а папросту ня маюць такое патрэбы, маўляў, пражывем якнебудзь паасобку, ня згінем...

Калі нехта па прыезьдзе ў Шчэцін захоча наведаць усе яго славутыя мясьціны, галоўнае, каб не патрапіў у экскурсаводы паляк з-пад Берасьця, які будзе на ламанай расейскай мове тлумачыць, што там а там жыла будучая расейская імпэратрыца Кацярына II, там а там у X стагодзьдзі валадарылі паморскія князі, а потым пачне ў храналягічнай пасьлядоўнасьці

пералічваць усе нямецка-швэдзкія акупацыі „польскага" Шчэціна... ягоны аповед скончыцца байкай пра добрага Сталіна, які адабраў гэты горад у немцаў і „вярнуў палякам". Гэты дзядок нават не захоча чуць пра тое, што ягоныя слухачы не з Расеі, а зь Беларусі і добра разумеюць па-польску, дзеля чаго не патрабуюць расейскага перакладу. Выснова: шпацыраваць па цэнтры Шчэціну лепей самахоць – болей убачыш і болей здабудзеш.

Калі ў трамваі ці ў краме пазнаюць, што чалавек прыехаў з усходу (то ж бо з былога СССР), то краіну паходжаньня палякі прыпісваюць наўздагад – ад „Lotwy" да „Rosji". Калі ж гэта Беларусь, дык адразу пасыпляцца спачуваньні кшталту „а ў вас жа там цяжка жыць, напэўна", „а гэта ж у вас дыктатар Лукашэнка", „у вас, напэўна, зараз так, як у нас за ваенным станам" і гэтак далей...



Беларуская мова палякамі на слых успрымаецца як украінска-расейска-польская мяшанка, калі ж паляк дазнаецца, што гэтая „мяшанка" мае сваю назву, дык адразу да ейнага носьбіта зьяўляецца павага й зацікаўленасьць, а ягоная мова параўноўваецца з польскай, як чэская са славацкай: „мяшанка" пачынае "набываць сваё аблічча" і „становіцца" наймілагучнаю моваю.

Калі параўноўваць Шчэцін зь Беларусьсю, варта зазначыць, што няма больш падобнага на яго гораду за нашую Горадню. Абодва знаходзяцца ў самым заходнім кутку адпаведна Польшчы й Беларусі, абодва мала падобныя кожны на сваю краіну... Таму каб зразумець дзьве краіны, трэба пабыць у Магілёве, Менску й Горадні (адпаведна ў Беластоку, Варшаве й Шчэціне). З наведваньня гэтых гарадоў разумееш, якой рознай бывае адна й тая ж краіна, якія розныя людзі...

## Шчэцін – Варшава

Вяртаньне дамоў... Увесь час, калі знаходзісься за мяжой, адчуваеш сябе вольным, але прыгнятае веданьне таго, што рана ці позна трэба будзе вяртацца... вяртацца з "гнілога захаду" (дзе хочацца яшчэ хоць трошкі "пагніць") у "рынкава-сацыялістычны рай"... вяртацца ў СССР. Аднак жа мусім вяртацца дадому, каб вярнуць гэтаму "СССРу" яго спрадвечную назву Беларусь, зрабіць гэтую краіну ня горшай ад іншых, каб сюды ня толькі хацелася вяртацца, але й не хацелася зьяжджаць.

Калі ня мы – то хто? Адвечнае пытаньне... Ды ніхто!

За акном мільгацяць начныя малюнкі: цёмны лес на тле чорнага неба, дзесьці ў вышыні сьвецяцца зоркі, а з-за хмараў выплывае поўня. Ад гэтых дзіўных краявідаў і паху начнога лесу пачынае круціцца галава і хіліць на сон...

## Варшава — Берасьце

Прачнуўшыся, калі цягнік пачаў пакідаць варшаўскі вакзал, узьнікае непераадольнае жаданьне хутчэй прыехаць у Менск, каб толькі ў мроях успамінаць два тыдні, праведзеныя ў вольным сьвеце, бо чым болей там жывеш, тым болей ня хочацца вяртацца ў край, дзе людзі гатовыя прадацца самому д'яблу толькі за тое, каб атрымаць кавалак каўбасы, што даўно замяніла ў душах і сэрцах людзей Бога.

Цягнік мінае мост, што зьвязвае дзьве краіны, дзьве цывілізацыі, і пачынаецца РБ, якая сустракае жалезнаю брамай над чыгуначнымі пуця-

вінамі, на якой прымацаваныя словы: РБ – МІР. Калі прачытаць другое слова з канца, атрымаецца: РБ – РИМ. Недзе ўжо гэта было... "Москва – третий Рим, а четвертому не бывать!" Выпадковае супадзеньне?.. Ці мо РБ – пяты Рым, а шостаму ня быць?..

## Берасьце

На берасьцейскім вакзале цягнік сустракаюць цыганяткі, якія, быццам акрабаты, скачуць праз рэйкі і просяць ля кожнага вагону. Падыходзіць нашая чарга. Гледзячы ў вочы аднаму вядомаму постмадэрністу, чарнявае дзіцятка крычыць: "Дядя, дядя, дай!!!" "Ня дам", — зь пяшчотнай усьмешкай людажэра адказвае постмадэрніст. Цыганятак зьмяняюць бабулькі-гандляркі, якія за злотыя-марачкі прапануюць сьлівы, памідоры, агуркі, бражку... за імі цягнецца дзядзька, які ўпарта ня хоча прызнавацца, што ў ягонай торбе ляжаць ёмістасьці з гарэлкай. Ва ўсіх гандляроў вельмі чыстая расейская мова (і гэта на самым захадзе Беларусі), дзеля чаго Берасьце нават больш падобнае на Тулу ці Разань за той жа самы Магілёў.

Але найбольш уражвае людзкая сьвядомасьць, што не зьмянілася ад пракаветных часоў. Для большасьці берасьцейцаў, якія сустрэліся на вакзале, усё беларускае брыдкае ды непрыемнае. Яскравы прыклад: у вагон заходзіць "жэншчына" (натуральна, гандлярка), прапануе "пиво", "курицу", "водку". Пачуўшы беларускую мову, насьцярожваецца, займае абарончую пазыцыю, пачынае філязофстваваць на тэму: "Я не люблю свой родной язык, белорусский язык некрасивый" і гэтак далей... Яна ня можа сабе ўявіць, што ў Менску, у сталіцы, ня ўсё размаўляюць на "великом и могучем", а дзенідзе па-беларуску нават вучацца ў школках. У рэшце рэшт, на заўвагу наконт таго, што палякі надта добра адгукаюцца пра "некрасивый белорусский язык", "жэншчына" з горда ўзьнятай галавой заяўляе: "Тогда уже украинский язык красивый, но не белорусский" і чамусьці зьбягае, пасьля таго як яе называюць "неадукаванай і цёмнай". Звычайна так робіць чалавек, якому сорамна... Што тут дадаць? Без камэнтароў...

## Берасьце – Менск

Знаёмства ў цягніку зь дзьвюма панямі з-пад Шчэціну, якія адразу прызнаюцца ў сваім беларускім паходжаньні, імгненна выцірае з памяці берасьцейскія жахі. Дзьве самавітыя беларускія жанчыны за той час, як у 1946 годзе ўцяклі са Смаргоні й Маладэчні ад сталінскага сацыялізму, ня толькі не забыліся на свае карані, а ў дадатак цудоўна памятаюць родныя беларускія песьні, пачутыя ад бацькоў. Таму ім зусім не зразумела, як гэта ў Беларусі забыліся на мову продкаў і ўтапталі яе ў гразь. Страшна становіцца ад усьведамленьня правільнасьці выбару, зробленага гэтымі жанчынамі ў далёкім 1946 годзе, бо зьбегшы ад сталіншчыны, лёс ўратаваў іх ад галечы, у якой апынулася Бацькаўшчына напрыканцы другога тысячагодзьдзя...

## Менск

Недабудаваны вакзал, перапоўненыя трамваі і стомленыя вочы менчукоў яшчэ раз сьведчаць: стары лад прагніў і яго трэба мяняць, але, як заўжды, кожны ймкнецца застацца збоку і баіцца пачаць зьмены з самога сябе. Пакуль у грамадстве будзе пераважаць меркаваньне "мо неяк абыдзе бокам, перажывем", датуль гэтая краіна будзе гніць... Але колькі ўжо можна?! Успамінаецца даўні лёзунг: перабудову пачні зь сябе!

Наталя Арлова

# Беларуская лацінка: гісторыя, сучаснасьць, будучыня

На новай хвалі беларускага адраджэньня напрыканцы 80-х і пачатку 90-х гадоў востра паўстала пытаньне рэфармаваньня беларускай мовы. Сярод іншых аспэктаў гэтае праблемы вылучаліся й радыкальныя прапановы аб адмове ад кірылічнай графікі і звароту да так званай "беларускай лацінкі". Сутнасьць і пэрспэктывы гэтае моўнае зьявы заўсёды выклікалі сур'ёзныя спрэчкі.

Зьяўленьне беларускай лацінкі зьвязваюць з XIX стагодзьдзем, хаця некаторыя лічаць, што яшчэ славуты Сымон Полацкі часам карыстаўся лацінскімі літарамі дзеля перадачы роднае мовы. Аднак як масавая зьява лацінка сапраўды ўзьнікла значна пазьней.

Запіс беларускіх словаў лацінскімі літарамі зьявіўся адначасова вынікам і палянізатарскіх, і русіфікатарскіх працэсаў, якія мелі месца на Беларусі асабліва ў XIX стагодзьдзі. Магчыма, надрукаваць твор, напісаны лацінскімі літарамі (хаця і не на лаціне) было ў тыя часы лягчэй, чым напісаны кірыліцай, але не па-руску. Вось і атрымалася, што ўся так званая "новая беларуская літаратура", якая пачала складвацца ў XIX ст., мела на ўвазе найперш лацінскую графіку. Наколькі гэта зьява была тыповая, можна ўбачыць, зьвярнуўшыся да найбольш вядомых нам тагачасных твораў. Нават славутая, скіраваная да народу, "Мужыцая праўда" К.Каліноўскага выходзіла не кірыліцай, што можа сьведчыць пра не зусім элітарны характар лацінкі. Яна проста арганічна ўпісалася ў мясцовае (тутэйшае) жыцьцё, і, магчыма, успрымалася як адметная ад расейскай культуры, свая асаблівая культурная зьява. Паэтычныя зборнікі Ф.Багушэвіча, творы Цёткі, Я.Купалы і іншых на мяжы стагодзьдзяў спачатку зьяўляліся на лацінцы.

Ужо ў пачатку XX стагодзьдзя, калі былі зьнятыя абмежаваньні на друкаванае беларускае слова, кірыліца зноў пачала распаўсюджвацца. Хаця першыя беларускія газэты выдаваліся або толькі лацінкай, або і лацінкай, і кірыліцай. У хуткім часе абедзьве графічныя сыстэмы пачалі ўжывацца аднолькава часта – пісалі, каму як зручна. Неабходна нагадаць, што тады стаяла пытаньне ня столькі выбару графічнай сыстэмы, колькі выпрацоўкі граматычных нормаў мовы ўвогуле. Адзінай сыстэмы бела-

рускага правапісу афіцыйна не існавала, але ў 1917-1918-ыя гады пачалі выдавацца падручнікі, што належалі пяру вядомых мовазнаўцаў і навучалі правільнаму, на іх погляд, беларускаму пісаньню. Так, для прыкладу, у 1917 годзе ў Вільні зьявілася кніжка Антона Луцкевіча "Як правільна пісаць па беларуску» (лацінскімі літарамі). Разам з тым зьявіўся і "Наш правапіс» (кірыліцай) Язэпа Лёсіка. У 1918 годзе Рудольф Абіхт і Янка Станкевіч паспрабавалі зрэфармаваць на лацінскім шрыфце беларускую графіку, прапанаваўшы некаторыя новыя літары, паказ мяккасьці гукаў і г.д. У тым жа годзе зьявілася і вядомая "Беларуская граматыка для школ" Браніслава Тарашкевіча, якая была надрукавана і кірыліцай, і лацінкай.

Як бачым, лацінка і кірыліца суіснавалі пэўны час разам. Аднак, такі стан ня мог працягвацца вельмі доўга, бо патрэбу ўва ўнармаваньні мовы разумелі ўсе тагачасныя мовазнаўцы. Гэтая праблема ўздымалася і ў БНР, і ў часы беларусізацыі ў БССР. Канчатковага выбару зроблена не было нават на вельмі прадстаўнічай акадэмічнай канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, што адбылася 14-19 лістапада 1926 году ў Менску. Яна была склікана Інстытутам беларускай культуры, і ў яе працы бралі ўдзел самыя вядомыя навукоўцы і дзеячы як з БССР, так і з замежжа. Чаго вартыя імёны В.Ластоўскага, У.Жылкі, К.Езавітава, Я Лёсіка, С.Некрашэвіча! Гэта быў найбуйнейшы сход беларускіх мовазнаўцаў за савецкі час. Праца адной зь дзьвюх камасіяў на канфэрэнцыі была прысьвечана менавіта графічнай праблеме. Трэба сказаць, што існавала шмат як прыхільнікаў, так і праціўнікаў лацінкі як адзінай графічнай сыстэмы беларускай мовы. Сярод апошніх можна назваць В.Ластоўскага, Я.Лёсіка, С.Некрашэвіча. Іх аргумэнты базаваліся на тым, што кірыліца больш прыдатная, на іх погляд, для перадачы асаблівасьцяў беларускай гаворкі, а таксама мае традыцыі, зьвязаныя яшчэ са старабеларускай мовай. Найбольш пасьлядоўным прыхільнікам лацінкі быў Пётра Апанасавіч Бузук – загадчык дыялекталягічнай камісіі Інбелкульту. "Надыходзіць час падумаць аб лацінцы; безумоўна, да гэтага справа дойдзе; мы эўрапеезуемся, мы прынялі новы стыль, мы прынялі дзесяткавую сыстэму мер, нам застаецца зрабіць апошні крок – перайсьці да лацінкі", – заклікаў прафэсар на адным з паседжаньняў. Спрэчак па пытаньні адзінай графікі было дастаткова. У выніку, былі прынятыя рэкамэндацыі па рэформе беларускага правапісу, але яны не былі ўлічаныя. Канфэрэнцыя хутка была названа "контрарэвалюцыйный дэманстрацыяй сабраных з усіх канцоў нацыянал-дэмакратаў", а яе актыўныя ўдзельнікі або трапілі за краты, або пасьпяшаліся выехаць за межы савецкай рэспублікі.

Пасьля адзначаных падзеяў, як вядома, у 1933 годзе была праведзеная ўжо так званая "наркамаўская" рэформа правапісу, закліканая як мага больш наблізіць беларускую мову да расейскай (пра што адкрыта і казалася ў савецкім пэрыядычным друку). Пасьля гэтае рэформы пытаньне лацінкі, вядома, ужо не стаяла на тэрыторыяі БССР. Аднак, у Заходняй Беларусі пераважала да 1939 году, пакуль і туды не завітала савецкая ўлада.




Яшчэ адзін пэрыяд пашыранага карыстаньня лацінскай графікай (паралельна з кірылічнай) зьвязаны зь дзейнасьцю беларускай калябарацыі падчас другой сусьветнай

вайны. Зноў зьявіліся беларускія газэты і часопісы, частка зь якіх выходзіла лацінкай. Зь вяртаньнем савецкай улады аднавілася і савецкая сыстэма беларускай мовы, якая зь невялікімі зьменамі праіснавала да канца 80-х - пачатку 90-х гадоў. Тады, падчас новай хвалі беларускага адраджэньня, пытаньне звароту мове яе нацыянальных асаблівасьцяў, адмовы ад "штучнай" наркамаўкі пачало актыўна ўздымацца на старонках пэрыядычнага друку. Асноўная дыскусія разгарнулася паміж прыхільнікамі і праціўнікамі "тарашкевіцы".

ZAÚTRAŠNI DZIEŃ?

Пытаньне ж аб магчымым звароце да лацінскай графікі ня мела шырокага рэзанансу, бо, здаецца, вельмі сур'ёзна гэта не ўспрымалася, хаця некаторыя публікацыі лацінкай сустракаліся ў беларускай прэсе. Магчыма, была засьцярога, што такія радыкальныя зьмены адштурнуць шараговых беларусаў, што звыкліся з наркамаўкай і ўжо інтэрнацыянальнай расейскай мовай, ад роднае мовы яшчэ далей. Хаця, можа стацца, што карэнная моўная рэформа на дзяржаўным узроўні ў тыя часы дазволіла б Беларусі больш пасьпяхова разыграць "нацыянальную карту", дапамагла б абудзіць адчуваньне своеасаблівасьці роднай мовы, культуры і гісторыі. Верагодна, што лацінка дапамагла б зарыентаваць Беларусь на Эўропу. Безумоўна, такія радыкальныя захады маглі б нэгатыўна ўспрымацца пасыўнай большасьцю. Але ж апошняй увогуле вельмі рэдка патрэбныя якіясь зьмены.

У сёньняшняй сытуацыі, калі пытаньне аб рэфармаваньні беларускай мовы неяк само па сабе зьнікла, казаць пра заганы і перавагі лацінскай графікі для беларускай мовы ня мае сэнсу. Тым ня менш, ёсьць выпадкі, калі і зараз неабходна нават лепш, чым раней ведаць лацінку ці нешта да яе падобнае. З набыцьцём Рэспублікай Беларусь якога-неякога сувэрэнітэту і выхадам раз-пораз на сусьветную арэну ўзьнікла праблема прыставаньня да міжнародных стандартаў. Так, напрыклад, існуе агульнапрыняты стандарт пашпартоў, які патрабуе, каб уласныя імёны і назвы ў іх пазначаліся лацінскімі літарамі. У сьвеце былі распрацаваныя шматлікія сыстэмы прыстасаваньня розных моваў да лацінскага альфавіту. Падобнай дзейнасьцю займаецца, напрыклад, Міжнародная Арганізацыя Стандартаў (International Standart Organization). Аналягічная сыстэма была распрацаваная Інстытутам мовазнаўства Акадэміі навук СССР (цяпер Расейская Акадэмія навук). Аднак, усе вышэй пералічаныя сыстэмы не перадаюць усіх асаблівасьцяў беларускай мовы. Таму Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа Акадэміі навук Беларусі прапанаваў сваю сыстэму, заснаваную пераважна на старой "беларускай лацініцы", вядомай яшчэ Тарашкевічу, але з асобнымі заўвагамі. Існуюць таксама іншыя сыстэмы трансьлітарацыі, але... Парадокс нашага жыцьця заключаецца ў тым, што пры запаўненьні беларускіх грамадзянскіх пашпартоў часам не выкарыстоўваецца ніводная зь іх. Афіцыйна сыстэма трансьлітарацыі, здаецца, ня вызначана, а таму адно імя Наталя можна сустрэць як Natalia, Natalya, Natalla і г.д.

Беларуская лацінка як графічная сыстэма мовы мае ўжо даволі працяглую гісторыю, і можа калі-небудзь яна й будзе прынятая як адзіны моўны варыянт.



# ТАНЧЫЦЬ Заўсёды



*Інтэрвію з Вольгай Цяцёркінай – студэнткай бальнага аддзяленьня катэдры харэаграфіі Беларускага ўнівэрсытэту культуры, тройчы чэмпіёнкай Беларусі па спартовых танцах.*

Студэнцкая думка: Вольга, растлумач, калі ласка, што гэта за новы для нас від спорту – спартовыя танцы на інвалідных калясках?

Вольга Цяцёркіна: Практычна, гэта вядомыя ўсім бальныя (у прафэсійнай лексыцы — спартовыя) танцы, толькі адзін з партнэраў – у інвалідnай калясцы.

Наагул, гэты від спорту разьвіваецца на Захадзе ўжо больш за трыццаць год, але чэмпіянат сьвету 1998 году быў праведзены ўпершыню. Дагэтуль праводзіліся толькі кубкі сьвету і чэмпіянаты Эўропы. Вось і атрымалася, што мы – першыя чэмпіёны сьвету ў гэтым відзе спорту, хаця ў нашай краіне ён, бадай, і невядомы.

С.Д.: Якой была гісторыя зьяўленьня спартовых танцаў на інвалідных калясках на Беларусі?

С.Д.: Ідэя неабходнасьці распаўсюджаньня гэтага віду спорту на Беларусі прыйшла на розум Валерыю Кірылавічу Каламійцу, які зьяўляецца прэзыдэнтам Беларускага фонду па аказаньні дапамогі спартоўцам-інвалідам. Чатыры гады таму ён упершыню пабачыў у Галяндыі гэты цудоўны, адзін з самых замілавальных, від спорту. Сама ідэя і яе ўвасабленьне яму настолькі спадабаліся, што Валерый Кірылавіч вырашыў разьвіваць гэты від спорту й на Беларусі.

С.Д.: Вольга, а як утварыўся твой з Барысом дуэт?

В.Ц.: Як мы знайшліся... Сама я з шасьцёх год займалася спартовымі танцамі, і дасягнула даволі значных посьпехаў у гэтым відзе спорту: тры разы была чэмпіёнкай Беларусі, некалькі разоў срэбраным прызэрам. Атрымалася так, што два гады таму я апынулася без партнэра, і мне прапанавалі заняцца новым відам спорту – спартовымі танцамі на інвалідных калясках. Да таго моманту я нічога ня чула пра нешта падобнае, бо на абшарах былога СССР ніхто гэтым не займаўся, і мы былі першай парай з былога СССР, якая выйшлі на міжнародную арэну. Мянс знайшла наша будучая трэнэрка – Вольга Пятроўна Хаханава, якая прапанавала стаць у пару зь інвалідам-калясачнікам Барысом Бачкоўскім. Барыс – вельмі цудоўны чалавек,

вельмі незвычайны. Яму зараз 38 год. Ён усё жыцьцё займаўся спортам. Спачатку футболам, потым, пасьля траўмы, настольным тэнісам, гонкамі на калясках, плаваньнем і г.д. Барыс – срэбраны прызэр СССР па лёгкай атлетыцы, чэмпіён СНД 1997 году па настольным тэнісе, пяцікратны чэмпіён Беларусі ў гэтым жа відзе спорту, сямікратны чэмпіён рэспублікі па лёгкай атлетыцы (дыск, кап'ё, ядро) і гонках на калясках. Усяго мы налічылі 14 відаў спорту, якімі ён у свой час займаўся. Барыс жанаты, водзіць машыну. Шчыра кажучы, гэта ён вучыць мяне жыцьцяздольнасьці.

С.Д.: Скажы, калі ласка, наколькі складана было пачынаць?

В.Ц.: Спачатку было вельмі цяжка, бо ніхто нават ня ведаў, якія існуюць патрабаваньні ў гэтым спэцыфічным відзе спорту, не было адпаведнага досьведу і ў нашага трэнэра. Дапамагло тое, што ў нас з Барысом атрымаўся цудоўны сынтэз. Барыс зараз інструктар міжнароднай клясы па навучаньні людзей руху на калясках, а гэта сапраўды вельмі складаная навука. А я маю падрыхтоўку ня толькі па спартовым танцу, а таксама некаторыя звычкі клясычнага і народнага танцу. Мы паспрабавалі, і атрымалася, напэўна, няблага, бо інакш мы б ня выйшлі на такі ўзровень.

С.Д.: Вольга, як вы атрымалі запрашэньне на чэмпіянат сьвету?

В.Ц.: Турніраў у нас за гэтыя два гады было шмат. Самае першае спаборніцтва – кубак сьвету ў Галяндыі ў 1997 годзе, дзе мы адразу сталі срэбранымі прызэрамі. Нас заўважылі, што адметна, бо ўзровень спаборніцтваў быў даволі высокі. Адразу пасьля кубку нас запрасілі на чэмпіянат Эўропы, які праходзіў у Швэцыі. Тут праграма была пашыранай (пяць танцаў: павольны вальс, танга, самба, джайф, пасадобль). Дарэчы, акрамя нас, была яшчэ адна пара з былога СССР – з Расеі, хаця і ня вельмі падрыхтаваная. На чэмпіянаце Эўропы мы занялі пятае месца, і па выніках нашых дасягненьняў нас запрасілі ў Японію, на першы чэмпіянат сьвету па спартовых танцах на інвалідных калясках, у горад Макухары. Удзельнічалі пары з 10 краінаў, такіх як Нідэрлянды, Японія, Нямеччына, Швэцыя, Нарвэгія і інш. Аднак, з краінаў былога сацлягеру мы былі адзінай парай. Праграма складалася зь пяцёх танцаў. Дарэчы, зараз на ўсіх спаборніцтвах у праграму ўключаюцца 10 танцаў. У Японіі мы сталі першымі чэмпіёнамі сьвету. Гэта было некалькі нечакана нават для арганізатараў спаборніцтваў, бо гэтаму сусьветнаму віду спорту ўжо трыццаць год, але беларуская пара тут зьявілася ўпершыню і адразу ўзяла золата. Тут нават і краіну нашу ня вельмі добра ведаюць.


*Вольга Цяцёркіна і Барыс Бачкоўскі – чэмпіёны сьвету 1998 году па спартовых танцах на інвалідных калясках.*

С.Д.: Вольга, што садзейнічала таму, што вы – першая на ўсёй постсавецкай прасторы пара, якая займаецца гэтым відам спорту, адразу здолелі дасягнуць такіх значных спартовых вышынь?

В.Ц.:Я ня ведаю, што адыграла галоўную ролю. Мы вельмі доўга і шмат рыхтаваліся, плюс вялізнае жаданьне... Дапамагло й тое, што і Барыс, і я зьяўляемся спэцыялістамі да-

волі шырокага профілю. Што тычыцца мяне, то я ўвесь час займалася ў лепшых беларускіх трэнэраў, а таму падышла да новага для мяне віду танцаў даволі падрыхтаванай. Гэты від спорту сапраўды вельмі складаны. Гэта адзіны від інваспорту, дзе побач з калясачнікам выступае здаровы чалавек. Ён адрозьніваецца ад іншых відаў танцавальных спаборніцтваў. Неабходна ўлічваць і псыхалягічны фактар, і адмысловасьць падобных спаборніцтваў. Ягоная спэцыфіка і ў тым, што фізычна здаровы партнэр вялікую частку нагрузкі мусіць браць на сябе. Я б хацела яшчэ раз падзякаваць Барысу за яго прафэсіяналізм, бо ён выдатна валодае тэхнікай кіраваньня каляскай і вельмі дапамагае мне.

С.Д.: Вольга, як бы ты вызначыла сёньняшні міжнародны ўзровень спартовага танцу на інвалідных калясках?

В.Ц.: Па-першае, зараз гэты від спорту вельмі распаўсюджаны. Напрыклад, у Галяндыі і Японіі больш за 200 толькі пачынаючых параў, я ўжо не кажу пра тых, хто займаецца танцамі стала. Гэты від спорту, бо ён вельмі набліжаны і да мастацтва, унікальны і прыгожы, а таму зараз ён пашыраецца і актыўна спансуецца. Сапраўды, людзям, якія ўсё жыцьцё марылі танчыць, даецца магчымасьць спраўдзіць свае мары, і гэта здорава.

С.Д.: Ці ахоплівае гэты працэс і былыя савецкія краіны?

В.Ц.: Так, зараз мы пачынаем распаўсюджваць гэты від спорту ў краінах былога сацлягеру. У гэтым годзе нас запрасілі ў Польшчу, дзе ў ліпені два тыдні мы навучалі польскія пары ў спартыўным летніку для інвалідаў. З 6 па 16 жніўня мы былі ў турнэ па гарадох Беларусі і Расеі: Менск – Віцебск – Смаленск — Масква. Прыемна, што паўсюль канцэрты нашыя праходзілі зь вялікім посьпехам.

С.Д.: Вольга, на твой погляд, ці прыжыўся гэты від спорту на Беларусі?

В.Ц.: Я б не казала так аптымістычна, але ў 1997 годзе прайшоў чэмпіянат Беларусі па гэтым відзе, дзе мы з Барысом занялі першае месца. Зараз такіх параў пяць, але галоўнае, што людзям гэта патрэбна, а таму я спадзяюся, што гэты спорт будзе папулярным і ў нас.

P.S. Ня так даўно Вольгу і Барыса вылучылі на званьне майстраў спорту міжнароднай клясы, з чым мы іх ад усяго ЗБС-у й віншуем. А з боку рэдакцыі абяцаем працягнуць знаёмства з гэтай цудоўнай і незвычайнай парай.

---

Пачатак на ст. 15

ахвотна выконваецца ўдзельнікамі. Парушальнікаў звычайна няма, а калі і ёсьць, то дастаткова нэгатыўнай рэакцыі групы ды дыпляматычнай заўвагі трэнэра са зваротам да распрацаваных групай нормаў. Вольны ад заняткаў час (звычайна вечар) – гэта час адпачынку. Але часьцей за ўсё група разьбіваецца на кампаніі па інтарэсах.

І.В.: *Якая роля трэнэра ў гэты час?*

В.К.: Для трэнэра — гэта таксама праца. Ён павінны быць гатовым дапамагчы вырашыць любую праблему ў любы момант. Ён, безумоўна, прымае ўдзел і ў вечарынах і гутарках пасьля заняткаў. Але я лічу, што панібрацтва дапускаць ня трэба. Уявіце, мяне запрашаюць выпіць разам, а на наступны дзень я мушу весьці заняткі. Ды мяне проста ня будуць успрымаць сур'ёзна: замест трэнэра я стану "сваім хлопцам". Гэтым можна змарнаваць усю папярэднюю працу. Трэнэр заўсёды павінен вытрымліваць з удзельнікамі т.зв. "пэдагагічную пазыцыю".Так што, пэўны аўтарытэт трэба ўмець захоўваць у любой сытуацыі. Зазначу яшчэ, што, калі праграма разьлічана на некалькі дзён, трэнэр абавязаны спэцыяльна заплянаваць шэраг забаўляльных мерапрыемстваў. А наведваць іх ці не – прыватная справа кожнага.

# ПРАГА Чэская й Беларуская

**Ільля Глыбоўскі**
*(чэскі й беларускі)*

Як ужо пісалася ў папярэднім нумары "СД", у гэтую вясну двум менскім студэнтам, сярод якіх быў і аўтар гэтых радкоў, удалася вандроўка ў Прагу чэскую. Як мы туды дабіраліся, я ўжо згадваў, а зараз прапаную кароткі расповед пра самую Злату Прагу.

Прага шмат для каго пачынаецца з галоўнага вакзалу (Hlavni nadrozi). Тут адразу можна пакінуць рэчы ў камэры захоўваньня, набыць мапу ды пашукаць рэклямных улётак з адрэсамі й тэлефонамі розных гатэляў. Дарэчы, аб гатэлях: улетку ў Празе іх працуе шмат ды ў розных раёнах гораду. Кошты вагаюцца ад 6 да 12 даляраў за ноч і залежаць ад "люксу" апартамэнтаў, месца знаходжаньня гатэлю, наяўнасьці дадатковых паслуг (сьняданак, напрыклад) і г.д. Большасьць гатэляў дае скідкі тым, хто спыніўся ў іх на некалькі дзён.

Ужо нават недалёка ад вакзалу можна знайсьці першы асяродак беларушчыны ў Празе – гэта "Радыё Вольная Эўропа /Радыё Свабода/". Станцыя гэтая разьмешчаная ў будынку былога чэхаславацкага парлямэнту, які стаўся непатрэбным у выніку мірнага разыходу чэхаў і славакаў напачатку 90-х. На "Радыё Свабода" стала працуе беларуская рэдакцыя (чатыры гадзіны этару на суткі) і заўсёды там ёсьць хтосьці з "нашых".

Побач з "Радыё Свабода" знаходзіцца галоўны музэй Чэскай Рэспублікі – Народны Музэй. Ягоная экспазыцыя зьмяшчае гісторыю, геаграфію, геалёгію, жывёльны ды расьлінны сьвет і шмат чаго іншага, што мае дачыненьне да Чэхіі й чэхаў. Акрамя сталай экспазыцыі, увесь час зьяўляюцца часовыя выставы. Дарэчы, для студэнтаў квіткі ў праскія музэі, на выставы й іншыя культурныя мерапрыемствы зазвычай каштуюць на 50% таньней. І, акрамя таго, кожны музэй раз на тыдзень або раз на месяц мае дзень дармавога ўваходу.

Яшчэ троху скажу пра сыстэму абмену валюты ў Чэхіі. Акрамя розьніцы курсу куплі ды продажу, там існуе яшчэ й камісійны збор за абмен. Ён вагаецца ад 1 да 10% ад сумы абмену, але ня менш нейкай мінімальнай мяжы. Зазвычай больш-менш памяркоўны курс

---

І.В.: *Віталь, трэнэр – гэта стыль жыцьця ці толькі працоўнае месца?*

В.К. Не магу сказаць адназначна. З аднаго боку, у нейкай бытавой сытуацыі сваё роднае, унутранае можа вылезьці першым, а потым ужо прыходзіць асэнсаваньне таго, што адбылося, і як трэба было сябе паводзіць; з другога боку, калі б я на трэнінгу вучыў аднаму, а сам гэтага не прытрымліваўся, гэта было б хлусьнёй. Увогуле, я сам вельмі зьмяніўся за той час, што займаюся трэнэрскай працай, і, як мне падаецца, у лепшы бок. Так што, з дапамогай інтэрактыўных мэтадаў навучаньня можна калі не зьмяніць тэмпэрамэнт, то значна адкарэктаваць характар і зьнішчыць шмат якія комплексы, нават і ў сталым узросьце. А таксама набыць пэўныя звычкі. Апошняе залежыць ад спэцыфікі сэмінараў.

І.В.: *Дзякуй вялікі за вельмі цікавую і жывую размову.*

ды камісійныя ў "Чэскай Спажытэльні", прычым мяняць выгадна ад 50 даляраў і болей. Але гэта ўсё дробязі.

Падчас побыту ў чэскай Празе нам дужа пашчасьціла, бо ўжо ў першы ж дзень пазнаёміліся з кіраўніком беларускага цэнтру пры Фундацыі Чэскай Тэлевізіі "Чалавек у нядолі" панам Уладзіславам Яньдзюком. Дзякуючы пану Уладзіславу, мы ўпершыню патрапілі на "Радыё Свабода", ён паказаў, дзе знаходзяцца магілы прэзыдэнтаў БНР Пётры Крэчэўскага й Васіля Захаркі, магіла беларускага сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага, арганізаваў вандроўку ў Кутну Гору, а таксама шмат-шмат чаго іншага. Дапамога й парады пана Ўладзіслава зрабілі наш побыт у Празе лёгкім ды прыемным. Вялікі яму дзякуй за гэта!

А цяперака перасунемся на 70 кіламэтраў ад Прагі – у Кутну Гору. Зараз гэта невялікае мястэчка, а калісь горад быў другім па ўплыве ў Чэхіі. А ўсё таму, што мясцовыя нетры былі насычанымі срэбрам у XIII-XIV стст. У Кутнай Горы здабывалася трацiна эўрапейскага срэбра. Тамака, па ўсёй верагоднасьці, упершыню былі выбіты талеры. У нашыя дні можна спусьціцца ў былыя шахты, асабіста пазнаёміцца з працай сярэднявечных шахцёраў, пабываць на манэтным двары, наведаць сабор Сьвятой Барбары, езуіцкі калегіюм, паглядзець каменны вадаём, гумны слуп і шмат іншага. Але я асабіста раю не прапусьціць касьцёл Усіх Сьвятых з касьцерняй (Kostnica) у Седлецэ, каля Кутнай Горы.

Калісьці падчас эпідэміі чумы сотні тысячаў людзей былі пахаваныя вакол касьцёла, але праз пэўны час зямля пацiху была прададзена, а людзкія косткі былі складзеныя ў касьцерні і выкарыстаны, прабачце, эстэты, для аздабленьня нетраў касьцёла. Калі знаходзішся ў атачэньні соцен тысячаў чалавечых чарапоў і костак, то разумееш сваё прызначэньне на сьвеце, а сама сьмерць здаецца нейкай драбніцай.

На наступны дзень мы вырашылі знайсьці "сьляды Скарыны" ў Празе. У гэтым нам дапамог Сяржук Сокалаў-Воюш. Ён дакладна паказаў месцы, дзе стаіць помнік Францішку Скарыну й мэмарыяльная дошка ў яго гонар. Апошняя ўсталяваная ў двары Кнігоўні (Knihovna) на Карлавай вуліцы (працяг Карлава моста), дзе ў 1517 годзе была выдадзеная першая беларуская кніга. Зараз у Кнігоўні знаходзіцца бібліятэка Карлавага ўнівэрсытэту. Помнік Францішку Скарыну пастаўлены на Градчанах (вуліца Елені), недалёка ад праскага Граду, рэзыдэнцыі каралёў, а цяпер – прэзыдэнта Чэскай Рэспублікі. Дарэчы, чэхі спачатку не жадалі ставіць помнік, аргумэнтуючы гэта тым, што калі ставіць помнікі ўсім, хто ў Празе што-небудзь рабіў, то месца ў горадзе ня хопіць. Тады Скарыну прадставілі як батаніка караля Фэрдынанда, і чэхі згадзіліся. Таму зараз на мэмарыяльнай дошцы, каля помніку, спачатку згадваецца, што Скарына быў каралеўскім батанікам, а ўжо потым, што зьяўляецца першым беларускім першадрукаром.

Ледзьве не забыўся распавесьці пра піва. Піва ў Чэхіі – крыніца невычарпальная. Таннае як у нас, але чамусьці заўсёды халоднае, ды пыняць яго за сталом, а не ў нейкай чарзе за стойкай, і пад'есьці можна ў бары да адвалу. Але мне больш спадабаліся тамтэйшыя вінарні. Выкшталцонае maраўскае віно, смажаныя каўбаскі, вяндліца з сырам... Ды што пісаць, частавацца трэба!

Пра ўсё не распавядзеш, нават калі сваімі зацемкамі займу ўвесь часопіс. Бо Чэхія гэта ...адроджаная нацыя...праская вясна... Вацлаў Гавэл... аксамітная рэвалюцыя...гаючыя мінэральныя крыніцы... Так што, бярыце пашпарт, грошы, ISIC ды іншую дробязу й самі ўсё пабачыце ды даведаецеся (нават, можа, больш за мяне)!

А, увогуле, Прага – цудоўнае ды выкшталцонае месца. Тамака адразу разумееш, што такое адзін зь лепшых гарадоў сьвету. Асаблівага гонару надае тое, што да гэтага цуду спрычынілася шмат нашых землякоў-беларусаў. І ўдзячныя пражане шануюць праз стагодзьдзі памяць аб іх.